*“Народную Волю” выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 55 (4307)**

13 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

### Не застаньцеся пасля адпачынку без «Народнай Волі»…

Не першы год заўважаем: летам падчас адпачынкаў хто-ніхто прыпыняе падпіску. Але ж у гэтым хаваецца пэўная небяспека: потым можна спазніцца з яе аднаўленнем.

Таму нагадваем: каб атрымліваць газету па пошце, напрыклад, у жніўні, аформіць падпіску трэба да 20 ліпеня. Пасля гэтай даты падпісацца можна будзе толькі на верасень і наступныя месяцы.

# Карупцыя ў сістэме Міністэрства аховы здароўя ўяўляе вялікую небяспеку для дзяржавы. Такой колькасці затрыманняў асоб кіруючага складу не было за ўсю гісторыю незалежнай Беларусі.

НУ І НУ!

## У тайніках акадэміка, прафесара медыцыны Аляксандра Бялецкага знойдзена каля 500 тысяч долараў у эквіваленце

*КДБ працягвае шакіраваць маштабамі антыкарупцыйнай справы ў медыцынскай сферы.*

Сярод затрыманых намеснік міністра аховы здароўя **Ігар Ласіцкі**, дырэктар РНПЦ траўматалогіі і артапедыіі, акадэмік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар **Аляксандр Бялецкі**, многія галоўныя ўрачы. З’явілася інфармацыя, што ў поле зроку сілавікоў трапіў нават брат уплывовага бізнесмена Аляксандра Шакуціна – **Сяргей Шакуцін** – заснавальнік кампаніі “Іскамед”, якая займаецца аптовым продажам лекаў і ўваходзіць, па некаторых ацэнках, у тройку найбуйнейшых кампаній-аптавікоў у Беларусі.

Сілавікі падкрэсліваюць: гэтая справа звязана не з лячэбным працэсам, а з пастаўкамі медыцынскага абсталявання і з наступным абслугоўваннем гэтага абсталявання ў медустановах адпаведнымі фірмамі. І пасля чарговай “справаздачы” КДБ ужо ўражваюць нават не імёны затрыманых, а тое, якія сумы знаходзяць у некаторых з іх.

Так, 11 ліпеня ў сюжэце праграмы “Панарама” на Беларускім тэлебачанні былі прадэманстраваны аператыўныя здымкі КДБ з ператрусаў у дырэктара РНПЦ траўматалогіі і артапедыі Аляксандра Бялецкага і галоўнага ўрача 1-й гарадской бальніцы Мінска **Алега Фаміна.** У кадры – безліч долараў, еўра, расійскіх рублёў, нават сустракаюцца фунты стэрлінгаў. Грошы ляжаць у картонных каробках, у каробках з-пад абутку. У сюжэце сцвярджаецца, што пры правядзенні ператрусу ў гаражы і па месцы жыхарства Аляксандра Бялецкага ў тайніках выяўлена каля 500 тысяч долараў у эквіваленце, пры ператрусе па месцы пражывання **Алега Фаміна** – каля 140 тысяч долараў. У кадры таксама бутэлькі з дарагімі напоямі, халодная зброя. Паказваюць і разгубленага Алега Фаміна. Акадэміка Бялецкага ў кадры няма (кажуць, што ў яго ўзніклі сур’ёзныя праблемы са здароўем), але чамусьці з’яўляецца карцінка з бутэлькай, на якой фатаграфія галоўнага ўрача 6-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска **Віктара Гурко.** Раней, дарэчы, з’яўляліся чуткі, што яго быццам бы таксама затрымлівалі, але вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе. У прыёмнай Гурко нам паведамілі, што *“Віктар Мікалаевіч на працы, ад’ехаў па справах”*. Няма і афіцыйнага паведамлення аб затрыманні Віктара Гурко. Навошта тады дэманстраваць яго фота ў кадры ператрусу ў доме Аляксандра Бялецкага?

Дарэчы, пакуль рэкорднай сумай, якую выявілі аператыўнікі, з’яўляецца 620 тысяч долараў у эквіваленце – столькі грошай было ў тайніку ў гаражы дырэктара “Белмедтэхнікі” **Аляксандра Шарака** (яго, разгубленага, таксама паказалі ў тэлесюжэце пра карупцыю ў медыцыне 25 чэрвеня ў эфіры БТ).

На дадзены момант, заявіў Валерый Вакульчык, за здзяйсненне злачынстваў, прадугледжаных арт. 430 «Атрыманне хабару», арт. 431 «Даванне хабару» і арт. 243 «Ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў» Крымінальнага кодэкса, Камітэтам дзяржбяспекі затрыманы, заключаны пад варту, а таксама ўжыты іншыя меры стрымання ў дачыненні да **37 службовых асоб, а ўсяго – больш за 60 фігурантаў.** У дачыненні да 22 службовых асоб і прадпрымальнікаў, якія дзейна раскаяліся, чыстасардэчна прызналі сваю віну і якія прынялі меры да пакрыцця незаконна атрыманых грашовых сродкаў, меры стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай не ўжываліся або былі зменены на не звязаныя з абмежаваннем волі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**




## Яны – за кратамі

Сярод затрыманых, названых старшынёй КДБ Валерыем Вакульчыкам, у асноўным медыкі і чыноўнікі ад медыцыны. На ўчарашні дзень былі агучаны наступныя імёны затрыманых:

**Ігар Ласіцкі** – намеснік міністра аховы здароўя. Чыноўнік абвінавачваецца ў спрыяльным вырашэнні пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю па арганізацыі дзяржаўнай рэгістрацыі вырабаў медыцынскага прызначэння, а таксама лаяльнае стаўленне пры выбары пастаўшчыкоў медтэхнікі. Сумы хабару, якія атрымліваў Ласіцкі, ваганіся ад 2,5 да 10 тысяч долараў.

**Вячаслаў Гніцій** – генеральны дырэктар прадпрыемства «Белфармацыя». Абвінавачваецца ў тым, што атрымліваў хабар за арганізацыю першачарговых разлікаў з камерцыйнымі структурамі, а таксама за выбар «патрэбных» пастаўшчыкоў медыцынскай прадукцыі.

**Аляксандр Шарак** – дырэктар прадпрыемства «Белмедтэхніка» – за арганізацыю заключэння і выкананне дагавораў, забеспячэнне своечасовай аплаты і рэалізацыі закупак.

**Аляксандр Сталяроў** – дырэктар Цэнтра экспертыз і выпрабаванняў у ахове здароўя – за вырашэнне пытанняў па дзяржаўнай рэгістрацыі лекаў.

**Аляксей Яськоў** – начальнік ваенна-медыцынскага ўпраўлення Міністэрства абароны – за заключэнне дагавораў па пастаўцы медыцынскай тэхнікі і вырабаў медыцынскага прызначэння ў адрас ваенна-медыцынскага ўпраўлення Міністэрства абароны, а таксама арганізацыю і кантроль аплат пастаўленай медыцынскай тэхнікі і вырабаў медыцынскага прызначэння.

**Андрэй Стрыжак** – начальнік галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама – за арганізацыю правядзення тэхнічнага абслугоўвання і рамонту медыцынскага абсталявання, які знаходзіцца ва ўстановах аховы здароўя Гродна.

**Валерый Васкевіч** – дырэктар ААТ «Экзон» – фармацэўтычнага прадпрыемства горада Драгічына.

Затрыманы пры атрыманні чарговага хабару ў суме 5 тысяч долараў. Абвінавачваецца ў тым, што на працягу доўгага часу атрымліваў незаконныя грашовыя ўзнагароды за заключэнне дагавораў на пастаўку прадукцыі ў адрас ААТ і паступовы пераход па сутнасці дзяржаўнага прадпрыемства пад кантроль камерцыйнай структуры. Усяго ў гэтым выпадку гаворка ідзе пра суму не менш як 25 тысяч долараў.

**Аляксандр Бялецкі** – дырэктар РНПЦ траўматалогіі і артапедыі – за арганізацыю правядзення тэхнічнага абслугоўвання і рамонту медыцынскага абсталявання з боку камерцыйных структур і своечасовую аплату за аказаныя паслугі.

**Алег Фамін** – галоўны ўрач 1-й гарадской бальніцы Мінска – за садзейнічанне ў арганізацыі закупак медыцынскага абсталявання для патрэб бальніцы.

Таксама КБД назваў імёны іншых затрыманых, праўда, без падрабязнасцей адносна таго, у чым яны абвінавачваюцца. Гэта:

**Валерый Кушнірэнка** – галоўны ўрач 9-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска.

**Андрэй Каралько** – галоўны ўрач Мінскай абласной клінічнай бальніцы.

**Анатолій Аладзька** – галоўны ўрача Віцебскай абласной клінічнай бальніцы.

КДБ паведаміў, што затрыманы таксама галоўны ўрач Рэспубліканскага цэнтра медыцынскай рэабілітацыі і бальнеалячэння **Сяргей Карыцька**.

***

Па некаторай інфармацыі, таксама затрыманы вядомы дзіцячы хірург, намеснік дырэктара РНПЦ дзіцячай хірургіі **Аляксандр Махлін** (у прыёмнай кажуць, што ён у адпачынку), загадчык эндаскапічным аддзяленнем 9-й клінічнай бальніцы Мінска, спецыяліст высокага ўзроўню **Андрэй Саўчанка** і намеснік галоўнага ўрача медыцынскага цэнтра МТЗ **Сяргей Семяжон**.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Василий ЖАРКО: «У меня все нормально»

В среду на некоторых сайтах появилось сообщение о том, что на допрос в КГБ вызывался вице-премьер Беларуси, министр здравоохранения с 2006-по 2016 год **Василий Жарко**. Прозвучало даже, что его якобы задерживали 6 июля, но потом отпустили.

Через несколько часов эта информация была опровергнута.

Вчера мы решили дозвониться до самого Василия Ивановича. Он был немногословен.

– *У меня все нормально,* – сказал вице-премьер.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

## Рукапісы не гараць. Але па іх топчуцца…

*Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя” адправіў у Генеральную пракуратуру заяву пра канфіскацыю часткі рукапісу новага рамана «Беларусалім» падчас адсідкі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна.*

30 чэрвеня суд Фрунзенскага раёна Мінска асудзіў Паўла Севярынца за ўдзел у абароне Курапатаў на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. На гэтым тыдні ён выйшаў на волю і патрабуе вярнуць яго рукапіс.

*«У перыяд з 30 чэрвеня па 10 ліпеня гэтага года я, Севярынец Павел Канстанцінавіч, пісьменнік, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, адбываў 10 сутак адміністрацыйнага арышту за абарону Курапатаў у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў ГУУС Мінгарвыканкама (ЦІП), у камеры №9*, – гаворыцца ў заяве ў Генпракуратуру. – *5 ліпеня падчас праверкі ў мяне забралі 11 старонак рукапісу рамана «Беларусалім. Сэрца святла», які я пісаў у камеры. Рукапіс забралі, нягледзячы на мае пратэсты”.*

Па словах Севярынца, у той жа дзень ён напісаў заяву на імя начальніка ЦІП, якую перадаў дзяжурнаму на праверцы. Але адказу на сваю заяву так і не атрымаў.

*“Больш за тое, на наступнай праверцы супрацоўнікі ЦІП дэманстратыўна раскідалі аркушы белай паперы з маіх рэчаў па ўсёй камеры і патапталіся па іх ботамі*, – распавёў Павел у заяве. – *Паводле ўсіх нарматыўных дакументаў, супрацоўнікі ЦІП не могуць канфіскоўваць асабістыя запісы -- гэта мая маёмасць. Больш таго, паколькі я пісьменнік, гэта мой хлеб. Факт канфіскацыі рукапісу і здзекаў я збіраюся данесці да як мага больш шырокіх колаў беларускай і міжнароднай грамадскасці. Лічу гэты факт абуральным”.*

Палітык патрабуе вярнуць яму рукапіс і пакараць вінаватых у парушэнні правоў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛІЧБА

## 1 мільён 270 тысяч еўра

Столькі па чэках Tax Free атрымалі беларусы ў першым паўгоддзі гэтага года праз “Тэхнабанк”. Гэтая сума на 290 тысяч еўра менш, чым за аналагічны перыяд 2017 года.

Tax Free – гэта сістэма вяртання сумы падатку на дададаную вартасць на пакупкі, якія былі зроблены ў замежнай краіне.

СУПРАЦЬСТАЯННЕ

## Што рабіць з пратэстам у Курапатах?

*Дэмакратычныя актывісты, якія на працягу паўтара месяца нясуць варту ля мемарыяла ў Курапатах, пратэстуючы супраць працы рэстарана “Поедем поедим», гатовы да дыялогу з уласнікамі забаўляльнай установы. Але на якіх умовах?*

### Перанесены ці перапрафіліраваны

Відавочна, што курапацкая варта не можа працягвацца гадамі і дзесяцігоддзямі – сітуацыю вакол рэстарана “Поедем поедим» трэба вырашыць так, каб былі задаволены ўсе: і ўласнікі рэстарана, і пратэстоўцы.

Чарговая спроба выйсці на перамовы была зроблена кіраўніцтвам Партыі БНФ. Была сустрэча з адным з уладальнікаў забаўляльнага комплекса **Леанідам Зайдэсам**. Дамовіліся: пытанне аб перамовах будзе актуальным толькі тады, калі на волі будуць усе абаронцы Курапат.

На сённяшні дзень за кратамі пасля курапацкай варты застаюцца рэжысёр **Аляксей Туровіч** і актывіст **Максім Вінярскі**. Тым не менш ва ўправе Партыі БНФ адбылася сустрэча абаронцаў Курапат, кіраўнікоў апазіцыйных партый і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў **Алены Анісім і Ганны Канапацкай,** на якой абмяркоўвалася пытанне: што рабіць далей?

Прапановы гучалі розныя, хаця і агульнага было шмат. Адбыўшы дзесяцісуткавы адміністрацыйны арышт якраз за абарону Курапат, **Павел Севярынец** сказаў:

– *На маю думку, перамовы з уласнікамі рэстарана магчымы толькі пасля спынення працы ўстановы. Яны зачыняюць рэстаран – мы здымаем варту. І садзімся за стол перамоў. Пры гэтым на волі павінны быць абсалютна ўсе абаронцы мемарыяла. Што мы можам прапанаваць? Па-першае, важна, каб у сустрэчы прымалі ўдзел прадстаўнікі Генпракуратуры, прадстаўнікі ўлады, у кампетэнцыі якіх вырашэнне гэтага пытання. Асабіста для мяне відавочна: рэстаран, калі ён хоча працаваць, павінен быць перанесены альбо перапрафіліраваны...*

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Какого повышения зарплат ждать бюджетникам?

Власти заявили о грядущем осенью существенным повышением зарплаты. Но не всем, а только бюджетникам. Рассказали о повышении жалованья бюджетникам в Минфине, хотя точные сроки и размеры повышения – не известны.

Откуда ж дровишки?

Дело в том, что, несмотря на известные трудности в реальном секторе экономики, окутанном корпоративными долгами, республиканский бюджет и бюджет сектора государственного управления сводятся с профицитом. Это своеобразный феномен белорусской экономики. Так, за 2017 год доходы сектора госуправления превысили расходы на 3,1 млрд рублей, республиканского бюджета – на 2,8 млрд рублей. Образованию профицита бюджета благоприятствуют и внешние факторы – повысившиеся мировые цены на нефть, нефтепродукты и калийные удобрения, экспортные пошлины от которых исправно пополняют казну.

Большая часть профицита республиканского бюджета, естественно, направляется, предварительно конвертируясь в валюту, на погашение государственного долга. Минфин стремится за счет роста профицита погашать ежегодно половину госдолга. Пока же эта доля остается в пределах 25%, а остальные 75% долга рефинансируются за счет новых кредитов и займов.

За 5 месяцев этого года профицит бюджета уже составил 3,6 млрд рублей. Вероятно, эти отрадные результаты дали повод правительству озаботиться и повышением зарплат бюджетникам. Причем не высшим чиновникам и силовикам, доходы которых за год выросли и так не менее чем на 40%, а низкооплачиваемым и среднеоплачиваемым работникам, которых в нашей стране пруд пруди. Это прежде всего работники сферы образования и здравоохранения и иже с ними малооплачиваемые специалисты от культуры, спорта и т.п. О том, что именно этим категориям бюджетников в первую очередь следует повысить зарплаты, говорил еще зимой глава государства. В среднем заработки бюджетников ниже, чем в целом по экономике, –740 против 950 рублей.

Однако в стране, начиная со второй половины прошлого года, реальная зарплата растет быстрее, чем производительность труда. На протяжении 2018 года зарплаты показывают рост на 13–14%, производительность труда – на 5–6%. Это создает известные риски. Их мы уже проходили. Инфляционные риски, риски для валютного рынка. Люди активнее начинают за счет «лишних денег» покупать импортные товары, ухудшая торговый баланс государства, и интенсивнее приобретать валюту для сбережений. Пока население и предприятия остаются чистыми продавцами валюты. Но это пополнение валютного рынка страны сокращается. Так, за 5 месяцев население, предприятия и нерезиденты в совокупности продали на чистой основе 424 млн долларов в эквиваленте. Годом ранее за такой же период чистая продажа составляла 1049 млн долларов. К тому же на 1 июля золотовалютные резервы Беларуси вновь упали до 6,8 млрд долларов за счет погашения валютных долгов. В июне власти выплатили кредиторам 424 млн долларов. Правительство и Нацбанк никак не могут дожать Евразийский фонд стабилизации и развития (ЕФСР) на выдачу обещанных последних двух траншей 2-миллиардного кредита по 200 млн долларов. Чтобы хоть как-то уменьшить потери в валютных резервах, Нацбанк приобретал валюту на бирже, разместил в июне облигационные валютные займы на 56,5 млн долларов. Минфин разместил своих облигаций на 50 млн долларов и 0,4 млн евро. В итоге белорусские золотовалютные резервы, как и раньше, покрывают только 2-месячный импорт страны, а надо бы 3-месячный как минимум. Есть опасность, что резервы к концу года могут откатиться к опасной черте в 6 млрд долларов.

Дополнительным фактором риска является укрепление белорусского рубля к российскому. С апреля наш рубль укрепился к российскому более чем на 7% – с 3,4 за 100 единиц до 3,15–3.20. Это грозит сокращением белорусского экспорта в Россию и увеличением оттуда импорта, как это уже было в конце 2014 года с последующей обвальной девальвацией белорусской денежной единицы.

С инфляцией у нас пока все хорошо. К лету в годовом измерении она оказалась на историческом минимуме в 4,4%. Это дало основание Нацбанку еще на полпроцента снизить в июне свою ставку рефинансирования (с 10,5 до 10%). В связи с быстрым ростом зарплаты аналитики предрекают повышение инфляции к концу года до 5–6%.

Экономике Беларуси к рискам не привыкать, она все время в таких условиях так функционирует. Создавшееся в последнее время ее относительное равновесие – хрупкое и неустойчивое, поскольку зависит только от внешних факторов. Сделать экономику страны устойчивой и надежной могут только те самые структурные реформы, которые пошагово расписаны нашими кредиторами (МВФ, Всемирный банк), но которые в своей главной части так и не начаты.

ПАД ГРАДУСАМ

## На выхадныя – дажджліва

Сёння на большай частцы тэрыторыі краіны -- моцныя залевы, навальніцы і нават град.

14 ліпеня, у суботу, удзень пройдуць кароткачасовыя дажджы. Месцамі навальніцы і моцныя дажджы. Ноччу +12.. + 18°С, днём +20.. + 27 °С.

15 ліпеня часам дажджы, месцамі навальніцы. Вецер наўстойлівы, слабы, пры навальніцах парывісты. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +13.. + 18 ° С, максімальная днём +20.. + 27° С.

СУПРАЦЬСТАЯННЕ

# Што рабіць з пратэстам у Курапатах?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

### "Трэба шукаць вінаватых…"

Відавочна адно: новы рэстаран не карыстаецца попытам у беларусаў, а значыць, бізнесмены няўдала ўклалі ў яго уласныя сродкі. І зараз шукаюць магчымасць захаваць твар і не згубіць грошы. Дарэчы, дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Ганна Канапацкая** лічыць, што і бізнес у гэтай сітуацыі таксама пацярпеў:

*– Мы павінны дзейнічаць выключна ў прававым полі, нягледзячы на тое, што дзяржаўныя ўлады гэтага не хочуць, – сказала яна. – Мы павінны быць вышэй за ўладу. Безумоўна, у сітуацыі вакол Курапат я бачу парушэнне закона. Больш за месяц таму я накіравала ў пракуратуру дэпутацкі зварот, у якім прасіла праверыць законнасць рашэння аб змене межаў ахоўнай зоны ў Курапатах і правамернасці знаходжання там забудовы. Адказу няма дагэтуль. Падчас справаздачы перад дэпутатамі я напрамую звярнулася да намесніка міністра культуры Беларусі Аляксандра Яцко і запыталася наконт сітуацыі з Курапатамі. Ён хутчэй агучыў сваю пазіцыю, чым пазіцыю ведамства. Але яна ўнушае мне аптымізм. Яцко сказаў, што ён і супрацоўнікі міністэрства туды ецці не пойдуць.*

*Але з іншага боку, я лічу, што ў гэтай сітуацыі бізнес таксама пацярпеў – ад той улады, якая прымала незаконныя рашэнні. Мы зараз забываем пра тое, што ёсць людзі, якія прымалі рашэнне аб змене межаў ахоўнай зоны ў Курапатах. Таму мы павінны патрабаваць ад улады пакарання тых асоб, хто прыняў такое рашэнне. Пасля таго, як вінаватыя бок будзе знойдзены, можна будзе гаварыць аб пагашэнні страт, якраз такі за кошт вінаватага боку, які панёс бізнес.*

Вынікам сустрэчы стала прыняцце рэзалюцыі, дзе акрамя пунктаў аб магчымасці правядзення перамоў утрымліваецца і заклік да беларускіх улад: на афіцыйным узроўні асудзіць бальшавізм і абмеркаваць пытанне мемарыялізацыі Курапат больш адкрыта.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЛЮДИ ДЕЛА

# ПРОСТО КАРТОШКА…

*КФХ «Сула»*

*Глава хозяйства: Радевич Владимир Владимирович.*

*Адрес: 222662, д.Яченка, ул.Центральная, д.75, Столбцовский район, Минская область.*



### Земля как продукт общего колхозного собрания

…Все начиналось, как водится, с земли. А земля начиналась с общего колхозного собрания. Которое, естественно, проголосовало против. То есть против выделения колхозной земли будущему фермеру Владимиру Радевичу.

Тогдашние руководители колхоза были категорически против «разбазаривания» общественной собственности. Неудивительно: на тот момент (2000 год) все, кто понимал, основательно забыли… А кто не понимал – представления не имели об очень простой вещи: общественное есть не что иное, как сумма частных. Именно по этому принципу когда-то создавали первые колхозы – суммировали частные участки земли, скот, инвентарь…

Но вот прогрохотала перестройка, пришло время, когда стало возможным создавать крестьянские фермерские хозяйства… Когда появилась возможность из этой основательно забытой суммы частных законным образом получить землю – даже не в собственность, а всего лишь в пользование. И вдруг оказалось, что реализовать это законное право сложно – иногда почти невозможно.

Первая попытка Владимира Радевича получить 27 гектаров земли оказалась неудачной – колхозное собрание проголосовало против «разбазаривания». Неудивительно: предколхоза агитировал и угрожал, и требовал на общем колхозном собрании, чтобы все голосовали против. Так все и проголосовали.

Вторая попытка результат принесла – во многом благодаря авторитету отца, много лет проработавшего в районе. В том числе в качестве председателя колхоза. В итоге Владимир Радевич получил 27 гектаров неудобиц. Не лучшее начало… Правда, не будь этих 27 гектаров, не было бы и того, что есть сегодня. А есть сегодня, спустя 18 лет, крупное, современное хозяйство «Сула», которое имеет 640 гектаров земли. Плюс на базе этого хозяйства созданы еще два предприятия. Это агроцентр «Сула» (1200 гектаров земли) и крупный логистическо-перерабатывающий центр «Сула плюс», строительство которого находится в стадии завершения.

В фермерском хозяйстве один учредитель – Владимир Радевич. В двух других – не только он, но и инвесторы.

Итого: 1840 гектаров земли. На них производятся картофель, рапс, горох фуражный, зерновые.

То есть это по сути холдинг с достаточно сложной структурой и немалым числом работающих. На всех предприятиях в общей сложности 67 наемных работников. В том числе переводчик (предприятие активно работает с зарубежными фирмами) и программист (а как сегодня без этого?). А всего в КФХ – шесть механизаторов, четыре специалиста.

Машинный парк составляют четыре грузовика, 11 тракторов – три мощных (в том числе John Deere), а остальные – МТЗ. С ними, кстати говоря, тоже все выглядит непатриотично – техника, как бы это помягче, не выдающаяся…

Зато зерновой камбайн «Полесье» – выше всяких похвал! Владимир Радевич считает, что при одинаковом качестве уборки, при работе, скажем, с широко известным Claasom затраты были бы в 9–10 раз больше. Для зоны, где средняя урожайность зерновых составляет где-то 40 центнеров с гектара, «Полесье» – идеальный камбайн

Сегодняшняя «Сула» это крупное, хорошо оснащенное, грамотно упраляемое, эффективно работающее частное хозяйство, которым можно гордиться – вполне патриотично…

Фермер сегодня – это еще и топ-менеджер!

### О патриотизме

Доминирующее положение в холдинге занимает картофель. Под ним в общей сложности 950 гектаров. Причем семена на 99 процентов зарубежные. Но почему? Ведь есть достаточное количество белорусских сортов: «Скарб», «Журавинка», «Зорачка»… А они в хозяйстве не используются. То есть патриотизмом в отдельно взятом картофелеводческом хозяйстве Радевича и не пахнет?

– Проблема совсем не в том, люблю я Беларусь и белорусские сорта или не люблю, – говорит Владимир Радевич. – Просто, чтобы продать картофель, нужен потребительский спрос. А спросом пользуются именно зарубежные сорта. Мы ведь занимаемся маркетингом, участвуем практически во всех выставках, которые проходят в Европе и в России.

Кроме прочего нужно знать: что у нас, на нашей земле, будет расти? У меня, к примеру, этот сорт растет хорошо, а в соседнем Кореличском районе из-за иного состояния почвы эффекта не будет. И наоборот.

Словом, в результате мы пришли к группе сортов, которые использует «Сула». Начинали работать с 60-ю сортами. А сегодня их только четыре. Для успешного бизнеса достаточно.

– Будет спрос на белорусские сорта – будем работать с ними, – уверен Владимир Радевич. – Еще и потому, что это снизит себестоимость. Но сегодня мы тратим на картофель громадные деньги. И если его не продать – будут не менее громадные убытки…

Фермер сегодня – это еще и высокого уровня технолог!

### Сбыт на территории очень сильных конкурентов

Да, картофель мало вырастить – его нужно еще и продать. И хозяйство Владимира Радевича справляется с этим весьма успешно. 85–90 процентов своей картошки продает в России. И еще немного – в Узбекистане, Казахстане, Молдове.

А это непросто. Особенно в России, где в последние годы очень хорошо развиваются собственные производство и переработка картофеля. В сельское хозяйство вкладываются громадные даже по российским меркам деньги.

За счет чего Радевичу удается выигрывать у мощных местных конкурентов? Есть такая поговорка: «Белорусы – те же русские, но со знаком качества». Те же – не те же, не будем спорить… И применительно к людям поговорка выглядит не очень корректной. Но применительно к картошке она, пожалуй, подойдет. Та же картошка, но со знаком качества. А почему?

Безусловно, играют роль сорта. Но не только.

Изначально российские производители пошли простым и дешевым путем. Они создали хранилища навального хранения. То есть картофель просто насыпан грудой, как в буртах… В результате огромное количество картофеля среднего и низкого качества. Премиумклассом могут похвастаться единичные хозяйства.

У Радевича – контейнерное хранение. При этом значительно меньше механических повреждений. К тому же в агроцентре действует мощное, дорогое оборудование: мойка, полировка, упаковка – объем от 2,5 до 25 килограммов. Недоработанный картофель с предприятия не уходит. Поэтому около 60 процентов картофеля у Радевича премиум-класса. И сбыт идет, что называется, со свистом!

Конечно, чтобы достичь такого результата, потребовались 18 лет напряженной работы.

Фермер сегодня – это еще и грамотный бизнесмен!

### Сырьевая зона и другие…

Все минувшие годы «Сула» производила картофель для потребления. Покупай и вари, жарь, делай что хочешь… Но скоро начнет работать упоминавшийся уже логистическо-перерабатывающий центр «Сула плюс». В его составе – предприятие по переработке картофеля в сухой порошок. То есть это сырье для фастфудов, добавки для мясной промышленности – в сосиски, сардельки, колбасы, для хлебной промышленности… И в большинстве на экспорт. Это уже совершенно другие сорта.

Перспективы большие. Но и проблемы немалые тоже. Главная из них: собственная сырьевая зона обеспечит только 70 процентов сырья. Около 30 процентов предстоит закупать. А это очень сложно, поскольку заключить договор с фермерами или государственными предприятиями о закупке картофеля заранее практически невозможно.

Логика простая. Картофель для переработки стоит условно около 60 евро тонна – не выше. И если на рынке возникает бо́льшая цена за продовольственный картофель, то производителю выгоднее продать урожай как продовольственный. Даже в нарушение достигнутых ранее договоренностей.

Поэтому приходится наращивать собственные сырьевые возможности, исходя из собственных средств и собственных сил. Пока не сложатся доверительные отношения с другими производителями.

Кстати, «Сула плюс» уже сегодня многое делает для того, чтобы сложились именно такие отношения. Со следующего года заключен большой договор с компанией, которая производит средства защиты растений. И это позволит обеспечить всех, кто будет работать с «Сулой плюс», средствами защиты по более низким ценам. То есть можно будет поставлять средства защиты в счет будущего картофеля. Это система, которая работает на сахарных заводах.

Предполагается так же работать с семенами. Холдинг несет огромные затраты, завозя с Запада семена специальных сортов для промпереработки. Теперь партнер «Сулы плюс» под будущий урожай сможет получить семена, комплекс средств защиты. Более того: можно будет убрать урожай собственной техникой «Сулы плюс»…

Будет три категории цен на сырье: для сырьевой зоны, для случайных поставщиков, для картофеля с высоким содержанием крахмала.

Такая система работы распространяется не только на фермеров, но и на крупные предприятия: СПК, ОАО… На этих предприятиях много руководителей, которые умеют считать, работать эффективно.

В результате складывается несколько этапов. Первый: с осени этого года – 37.000 тонн переработки картофеля. С нового года еще 37.000 тонн. И к 2020 году предполагается выйти на 150.000 тонн…

А еще в «Суле» готовятся выращивать спаржу. Не говоря уже о том, что это непривычная, это еще и очень непростая культура. Как оно пойдет? Есть официальные данные: одна Москва потребляет в месяц 300 тонн спаржи. Но то Москва… И оправдаются ли планы?

Фермер сегодня – это еще и стратег!

### Фермер и власть

Ни один фермер Беларуси не сторонник каких бы то ни было конфликтов с властью. Любой бизнес, как известно, любит спокойствие и устойчивые деловые отношения. Аграрный бизнес с его долгосрочной оборачиваемостью тем более.

Поэтому Владимир Радевич активно работает с властями, и у него с местными чиновниками постепенно сложились деловые, доверительные отношения. Конечно, всегда есть место для каких-то мелких проблем.

– Очень много времени иногда нужно, чтобы получить незначительную бумагу, без которой тем не менее не обойтись, – рассказывает дочь Владимира Кристина Радевич, выпускница Европейского гуманитарного университета. Она в «Суле» занимается сбытом, контактами с зарубежными фирмами, что подкреплено хорошим знанием английского и немецкого языков. – В последний раз нужен был документ в четыре строчки – полдня ушло на согласования…Впрочем, в Европе бюрократия не меньшая. Причем, скажем, в восточной Германии все решается довольно быстро. В западной – сложнее, чем в Столбцах…

Но не будем идеализировать наши местные чиновные обычаи и нравы. У фермеров существует целый ряд глобальных проблем, которые пока если и решаются, то с немалым трудом.

Первая и главная, как уже и отмечалось, земля.

– Та земля, которая у меня в фермерском хозяйстве – 640 гектаров, – это еще и 15 актов землепользования, – говорит Владимир Радевич. – Я 15 раз оформлял документы, ходил по инстанциям. Получаю несколько гектаров земли – назавтра несу новое заявление. В инстанциях год думают – потом со скрипом дают еще. Потом опять все с нуля.

Все это здорово мешало развиваться. Невозможно было думать о крупных вложениях, эффективно использовать дорогую технику.

Еще один «тормоз» – невозможность обменяться землей, это запрещено законодательно. А фермеру нужен севооборот. И такой обмен может быть очень эффективен. Както Радевичу, авторитетному хозяйственнику, все же удалось получить в исполкоме разрешение на обмен участков земли с соседним СПК. Радевич выращивал там картошку, а СПК собирался выращивать сахарную свеклу. Не вкладывая никаких денег в минеральные удобрения, СПК получил на этом участке урожай в 620 центнеров с гектара, при том что на других участках он составил всего лишь 360.

Вообще, партнерам в лице СПК и ОАО выгоден такой обмен. Радевич со своей мощной техникой убирает камни, сорняки, приводит землю в идеальное практически состояние… Не удивительно, что руководители соседних хозяйств едва ли не стоят в очереди на обмен. И если бы не законодательные препоны, такая работа могла бы быть очень эффективной. При том, что и в Европе, и в России такой обмен практикуется давно и в большом количестве. А у нас приходится с немалыми трудами договариваться.

Фермер сегодня – это еще и дипломат!

А говорят – просто картошка…

**Анатолий ГУЛЯЕВ.**

*Столбцовский район.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
13 ЛІПЕНЯ 2018 г.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# «…Пакіньце жыццё мне!»

Зіма 1987 года, Каралішчавічы пад Мінскам, заснежаны лес, семінар маладых літаратараў, куды мне пашчасціла трапіць з другога курса філфака БДУ.

І вось мы з празаікам Анатолем Казловым размяшчаемся ў тым звышсціплым фінскім дамку наводшыбе, які відавочна не прызначаўся для зімовых начлегаў, а летам у ім месціўся Пімен Панчанка. Агравання ніякага не было, і мы ў першую ноч да раніцы дружна прадавалі дрыжыкі. Назаўтра нам далі нейкі самаробны каларыфер, ад якога праз кожныя пятнаццаць хвілін выстрэльвалі пробкі ў электрашчыце.

Але мы былі маладыя, грэліся вершамі ды прынесеным з суседняга Апчака віном, і аўтографы Дзеда Мароза на шыбах нас асабліва не цікавілі. Больш цікавіла, як Народны паэт улетку адпачывае ў такіх непрыстасаваных для жыцця ўмовах. У дамку нават вады не было, ложкі стаялі з жалезнымі сеткамі, як у вайсковай казарме…

Пакідаючы праз тыдзень тое часовае жытло, мы ўсё ж удзячна напісалі на заінелых шпалерах – як прывітанне гаспадару – ягоныя радкі: *“Покуль сонца не згасла, покуль свецяцца зоры, / Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь! Дзякуй летапісцу Пімену за такія вершы. Сябры літаратурнага таварыства “Тутэйшыя”.*

Калі я пасля ўніверсітэта прыйшоў да Пімена Панчанкі браць першае ў сваім жыцці інтэрв'ю, то найперш пацікавіўся, ці дайшло да адрасата тое шпалернае пасланне. Паэт прыкметна ажывіўся і сказаў, што дайшло, ён доўгі час нават забараняў мяняць шпалеры ў тым месцы.

Першае інтэрв'ю з Панчанкам запомнілася мне яшчэ адной гісторыяй. Трэба сказаць, што, атрымаўшы рэдакцыйнае заданне, я перш-наперш зазірнуў у энцыклапедыю і ажно разгубіўся – пра што я, нядаўні выпускнік філфака, буду размаўляць з Народным паэтам, лаўрэатам Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, васьмёрачы ардэнаносцам, ганаровым акадэмікам Акадэміі навук Беларусі і экс-дэпутатам Вярхоўнага Савета з нячастым нават для савецкай наменклятуры стажам – ажно дваццаць сем гадоў?

Праўда, адвагі мне дадавалі згаданыя Каралішчавічы і любоў да панчанкаўскай паэзіі. Яшчэ са школы я ведаў на памяць і суровага, зусім не параднага “Героя” (“*Злосна сказаў: уставай, пяхота, / Мы не на пляжы, а на вайне…*”), і пяшчотныя “Белыя яблыні”, і “Родную мову”, дзе сакаталі, красавалі, жнівавалі, лістападзіліся і сняжыліся ўсе дванаццаць месяцаў беларускага календара. Памятаю, ужо ўзнімаючыся па лесвіцы ў доме, які знаходзіўся ў гэтак званым “Пыжыкавым раёне” над Свіслаччу, я паўтараў, як нейкі дадатковы пароль, памятныя са школьнай хрэстаматыі радкі: *“У акенца тваё / я пастукаў зязюльчыным ранкам / Пасля салаўінага вечара / і перапёлчынай ночы”…*

Але ніякіх дадатковых пароляў не спатрэбілася. Пачуўшы пра Каралішчавічы, Пімен Емяльянавіч прыняў мяне як даўняга знаёмца, і проста агаломшыў сваёй шчырасцю і даверам. Не чакаючы, пакуль я пачну задаваць падрыхтаваныя пытанні, паэт без аніякай наводкі з майго боку загаварыў сам пра рэчы, пра якія тады, нягледзячы на ўсю галоснасць, хіба шапталіся на пісьменніцкіх кухнях. Напрыклад, пра тое, што Янку Купалу ў Маскве ў 1942 годзе – забілі. “Я напісаў пра гэта ў дзённіку”, – прызнаўся Панчанка. І як яму было не паверыць, калі ён сам у той маскоўскай гасцініцы жыў і з Купалам сустракаўся…

Здзівіў мяне Панчанка і расказам пра свае адносіны з савецкай цэнзурай. Як мне на той час уяўлялася? Калі ты Народны паэт і лаўрэат найвышэйшых дзяржаўных прэмій, то аніякі прыдзірлівы рэдактар і звышпільны цэнзар не маюць права да цябе чапляцца. Аказалася – маюць, і Панчанку, нягледзячы на ўсе званні і прэміі, рэдагавалі і цэнзуравалі з гэткім жа ідэалагічным нахабствам, як і ўсіх астатніх. З кожнай кнігі здымаліся падазроныя з гледзішча Галоўліта вершы, шмат якія творы аўтар змушаны быў перапісваць.

Як прыклад цэнзуравання, Панчанка прыгадаў гісторыю з хрэстаматыйным вершам “Родная мова” (тым самым, згаданым). Паэта выклікалі ў выдавецтва і запатрабавалі змяніць фінальную страфу: *“Ці плачу я, ці пяю? / Восень, на вуліцы цёмна… / Пакіньце мне мову маю – / Пакіньце жыццё мне!”*. Іначай – кніга не выйдзе.

Што было рабіць? Паэт вымушаны быў згадзіцца і завершыць верш больш памяркоўным чатырохрадкоўем: *“Ці плачу я, ці пяю, / Ці размаўляю з матуляю – Песню сваю, мову сваю / Я да грудзей прытульваю”.*

У такім выглядзе “Родная мова” і друкавалася – ва ўсіх выбраных, зборах твораў і школьных падручніках. Пачынаючы з 1964 года. Самае дзіўнае, што паэт і крытык з бездакорным літаратурным густам Міхась Стральцоў назваў тыя дапісаныя пад прымусам радкі з “прытуленай да грудзей” мовай “так шчасліва народжанымі аднойчы, пранізлівымі і прачулымі”. У чым, верагодна, пераканаў і самога аўтара – Панчанка так і не аднавіў сцэнзураваны верш у прыжыццёвых выданнях.

Зрабіў гэта я ў паэтычнай анталогіі “Краса і сіла” (2003), калі Панчанкі даўно ўжо не было на свеце. Тады той-сёй папракаў мяне ў парушэннях. Маўляў, ёсць воля аўтара і правілы тэксталогіі, і парушаць іх нельга. Падобнай думкі, як выглядае, да гэтай пары трымаюцца і сучасныя выдаўцы – паўсюль “Родная мова” перадрукоўваецца са згодніцкім, вартым жалю фіналам. А быў жа (і мусіць застацца) пратэст народнага паэта супраць знішчэння беларускай мовы, выказаны ў час, калі савецкія людзі кукурузны камунізм будавалі.

*“Пакіньце мне мову маю – пакіньце жыццё мне!”*

СУД!

## 17 год турмы – за наркотыкі

*Такі тэрмін атрымаў 22-гадовы жыхар Віцебска.*

Малады чалавек асуджаны за захоўванне, перавозку і рэалізацыю асабліва небяспечных наркатычных сродкаў і асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў. Ён дзейнічаў у складзе арганізаванай группы, атрымліваў ад кіраўнікоў звесткі пра месцы захоўвання наркотыкаў і псіхатропаў, забіраў іх і перахоўваў, а пасля паведамляў пра гэтыя новыя схованкі.

Як паведамляе прэс-служба Вярхоўнага суда, справу разглядаў суд Першамайскага раёна Віцебска, але прысуд яшчэ можа быць абскарджаны.



svaboda.org (RFE/RL)

ПРАТЭСТ!

## Супраць ушчыльнення!

Сталічныя ўлады задумалі рэканструкцыю квартала паміж Батанічным садам, праспектам Незалежнасці і вуліцай Сурганава. Яны збіраюцца пабудаваць шматфункцыянальны комплекс з паркінгам на 560 месцаў, гасцініцу на 250 месцаў і медыцынска-аздараўляльны цэнтр для спартсменаў. Многія мясцовыя жыхары пратэстуюць. Яны лічаць, што ўшчыльненне забудовы пагоршыць умовы іх жыцця.

11 ліпеня адбылося грамадскае абмеркаванне праекта. Да 2 жніўня ў фае раённай адміністрацыі і на сайце райвыканкама жыхары могуць падаваць свае заўвагі і прапановы.

КРЫМІНАЛ

## Гендырэктара аднаго з дзяржаўных холдынгаў затрымалі за хабар у 85 тысяч еўра

Беларусь патанула ў карупцыі.

“Учора супрацоўнікі галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі крымінальнай міліцыі МУС за атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры ад прадстаўніка камерцыйнага суб'екта затрымалі ў Мінску генеральнага дырэктара аднаго з дзяржаўных холдынгаў. Памер незаконнага грашовага ўзнагароджання за забеспячэнне перамогі ў тэндары на закупку тэхналагічнага абсталявання і своечасовай аплаты склаў 85 тысяч еўра. Прыператрусе ў яго дома канфіскавана 140 тысяч долараў у эквіваленце», – праінфармавала БЕЛТА старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС **Вераніка Пасмецьева**.

Следчым камітэтам у дачыненні да кіраўніка холдынга заведзена крымінальная справа па ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры). Які холдынг, не паведамляецца.

ЧУЛІ?

## «Каменны Лог» чакае рэканструкцыя

*Работы на пункце пропуску плануецца пачаць у 2019 годзе*

*– Асноўная мэта рэканструкцыі -- трохразовае павелічэнне прапускной здольнасці да 6 тыс. транспартных сродкаў у суткі (3,5 тыс. легкавых, 2,4 тыс. грузавых, 100 аўтобусаў),* – сказаў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта **Юрый Сянько**. *– У пункце пропуску ўпершыню будзе прадугледжана рэверсіўная канальная сістэма для афармлення транспартных сродкаў з 32 каналаў – па 16 у кожным напрамку. У залежнасці ад колькасці транспартных сродкаў на ўезд або выезд з краіны, колькасць каналаў можна будзе змяняць па напрамках руху.*

АКЦЫЯ

## На дзяржаўным тэлебачанні як мінімум кожная другая перадача павінна весціся на беларускай мове

Пад такой грамадскай петыцыяй падпісаліся ўжо 233 чалавекі. Плануецца сабраць яшчэ 167, і праз 25 дзён накіраваць зварот у Міністэрства інфармацыі.

КОШТЫ

## Праезд падаражэе?

У Мінску хочуць падняць кошт праезду ў гарадскім транспарце.

Цяпер гэта пытанне знаходзіцца ў стадыі абмеркавання. Канчатковыя тарыфы на праезд у гарадскім транспарце будуць вядомы толькі пасля прыняцця рашэння Мінгарвыканкамам.

Кошт праезду прапануюць павысіць на 5 капеек: у наземным – да 65 капеек, а ў метро – да 70 капеек. Канкрэтныя тэрміны павышэння тарыфаў на праезд пакуль не паведамляюцца.

У апошні раз кошт праезду ў гарадскім грамадскім транспарце ў Мінску вырас з 1 лістапада мінулага года – на 5 капеек.

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

*Шаноўны Іосіф Паўлавіч!*

*Усе мае артыкулы, якія раней друкаваліся на старонках “Народнай Волі”, мелі, як правіла, шырокае грамадскае гучанне. Прапанаваная Вам сёння гісторыя спагнання грашовай пазыкі хоць і закранае некалькі дзясяткаў чалавек, носіць, можна сказаць, прыватны характар. Але, калі больш глыбока ўдумацца, то яна сведчыць і пра многія хібы ў нашым заканадаўстве, арганізацыі работы праваахоўных структур. Тыя пакуты, якія выпалі на долю ўсіх пацярпелых ад махлярскіх дзеянняў былога намесніка дырэктара школы №1 г.п.Смілавічы Дзмітрыя Лукіна, перакананы, павінны стаць урокам для ўсіх чытачоў Вашай газеты. Канкрэтныя прыклады сведчаць пра рэальнасць шэрагу дзяржаўных органаў нашай краіны.*

*Вельмі прашу Вас надрукаваць прапанаваны матэрыял і ўпэўнены, што пасля гэтага колькасць падпісчыкаў на газету толькі ўзрасце. За дакладнасць прыведзеных фактаў адказваю персанальна. Найважнейшыя лісты перапіскі з праваахоўнымі органамі дадаюцца.*

**З павагай і ўдзячнасцю –**

**Вячаслаў САСНОЎСКІ,жыхар гарадскога пасёлка Смілавічы.**

# Прававое бязмежжа?

На гэтае пытанне, напэўна, у кожнага свой адказ. У мяне, як і ў іншых пацярпелых у выніку махлярскіх дзеянняў былога намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце школы №1 г.п.Смілавічы Чэрвеньскага раёна Дзмітрыя Сяргеевіча Лукіна, ён адмоўны.

Сутнасць справы ў наступным. На працягу 2014–2016 гадоў шляхам падману і злоўжывання даверам грамадзян, прыдумаўшы важкую прычыну (пагашэнне банкаўскага крэдыту), гэты хітрэц завалодаў грашовымі сродкамі больш чым 10 чалавек. Сярод іх – настаўнікі, пераважна пенсіённага ўзросту, якія працавалі з ім у адной школе, а таксама іншыя грамадзяне. Апынуўся ў гэтым спісе і я. Якім чынам? Як чалавек веруючы і ведаючы, што сям'я намесніка дырэктара будуе жыллё і мае дзіця, кіраваўся евангельскім запаветам: “таму, хто просіць у цябе, дай, і ад таго, хто хоча пазычыць у цябе, не адварочвайся”. Мяркую, што гэтым кіраваліся і іншыя пацярпелыя. Не выпадкова большасць з іх не патрабавала нават распісак, калі перадавала грошы. Заўважу: сумы даваліся самыя розныя – ад 100 да 1500 долараў ЗША, 80 еўра, сотні беларускіх і тысячы расійскіх рублёў.

Пасля вусных напамінаў аб вяртанні грошай намеснік дырэктара адказваў усім аднолькава: крышачку пацярпіце і я разлічуся. Але ішоў час, але пазыку ён не вяртаў. Трое з пацярпелых, якія мелі на руках распіскі (у тым ліку і я), звярнуліся з адпаведнымі іскамі ў 2016–2017 гадах у Чэрвеньскі раённы суд. І выйгралі працэс. Але гэта не значыць, што ўсе мы тут жа атрымалі свае кроўныя.

Як вядома, судовыя рашэнні цяпер выконваюць супрацоўнікі аддзелаў прымусовага выканання. Прайшло ўжо паўтара года, аднак ніякіх грошай з боку даўжніка ніхто з нас не атрымаў. Мне даводзілася не менш за дзесяць разоў непасрэдна наведваць аддзел прымусовага выканання Кастрычніцкага раёна г.Мінска (цяперашняе месца жыхарства даўжніка), пісаць шэраг скаргаў на работу яго супрацоўнікаў, а таксама ў раённую пракуратуру, Міністэрства юстыцыі. Аднак акрамя спасылак на тое, што даўжнік не працуе і не мае маёмасці, ніякіх іншых рэальных крокаў па вяртанні грошай не зроблена. Пры гэтым заўважу, што ў 2016 годзе даўжнік залучыў шлюбную дамову з другой жонкай (сам шлюб зарэгістраваны значна раней), а ў сакавіку 2017 года разводзіцца з ёю і атрымлівае ў сваю маёмасць тэлевізар, пральную машыну, іншыя рэчы. У маі 2018 года кіраўніцтва вышэйзгаданага аддзела прымае пастанову аб прымусовым прывадзе даўжніка, таму як на позвы ён не рэагуе. І гэта толькі праз паўтара года пасля пачатку выканаўчай вытворчасці! Нягледзячы на такое “патрабавальнае” запрашэнне, даўжнік і на гэты раз не з'явіўся, хаця я спецыяльна прыехаў на сустрэчу. Вядома, што яўку павінны былі забяспечыць супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС, якія, па невядомых мне прычынах, не зрабілі гэтага.

Я ўжо не засяроджваю ўвагу на тым, што па маіх матэрыялах выканаўчай вытворчасці (№70517014426) змяніліся аж чатыры судовыя выканаўцы і ні адзін з іх не прыдаў значэння таму, што пераафармленне маёмасці адбывалася з парушэннем заканадаўства. Атрымліваецца, што ў нашай прававой дзяржаве вельмі проста затрымаць і аштрафаваць любога грамадзяніна, які арганізуе, скажам, маленькі пікет, каб выказаць сваю нязгоду з палітыкай улад, а да сапраўдных махляроў у супрацоўнікаў праваахоўных структур, як бачыце, рукі не заходзяць. Чытачам “Народнай Волі”, спадзяюся, вядомы факты, калі чалавек нават не паспеў здзейсніць злачынства, а пільныя супрацоўнікі органаў дзейнічалі на апярэджанне. Вось і думай пасля гэтага, каму яны служаць? Праўда, пакуль размова ішла пра грамадзянска-прававыя адносіны, а крымінальныя – наперадзе.

Назіраючы за такім ходам падзей па вяртанні грошай, у кастрычніку 2017 года я і шэраг іншых грамадзян (каля дзесяці чалавек) звярнуліся ў Кастрычніцкі аддзел г.Мінска Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь з просьбай распачаць крымінальную справу ў адносінах даўжніка па артыкуле 209 КК РБ (махлярства). У сувязі з тым, што практычна ўсе пацярпелыя пражываюць на тэрыторыі Чэрвеньскага раёна, крымінальная справа была распачата Чэрвеньскім РАСК 26 снежня 2017 года па ч.1 арт.209 КК РБ. Аднак 21 лютага 2018 года яе прыпыняюць па п.2. ч.1. арт.29 КПК “за отсутствием в деянии состава преступления” (цытую па пастанове аб прыпыненні крымінальнага праследавання, якая дадаецца да майго ліста). Не магу не працытаваць асноўную частку гэтай пастановы: *“…Анализируя материалы уголовного дела, можно прийти к выводу, что Лукин Д.С. в момент получения займа денежных средств имел заработок, а именно работал заместителем директора ГУО «Средняя образовательная школа №1 г.п.Смиловичи суммы денежных средств, получаемых Лукиным Д.С., не являются значительными, в связи с чем на момент получения займов имел реальную возможность их возврата, при этом получения займов действовал от своего имени, не скрывался. Факты использования денег, полученных в долг от граждан, на играх в букмекерских конторах, преследовали цель получения прибыли, и не могут расцениваться как мошенничество. Соответственно умысел на завладение имуществом граждан путем обмана и злоупотребления доверия у Лукина Д.С. отсутствовал, а значит, в действиях последнего признаки уголовно наказуемого деяния, предусматривающего ответственность по ч.1 ст.209 УК Республики Беларусь, отсутствуют».*

Зразумела, з такім рашэннем мы не маглі пагадзіцца і абскардзілі яго ў раённага пракурора і ва ўпраўленні Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці. Не цяжка здагадацца, якімі былі адказы з гэтых установаў. Працытую толькі выказванні пракурора Шабалінскага А.Л.: *“Рашэнне следчага Чэрвеньскага РАСК Навіцкай Н.І. ад 21.02.2018 г. аб спыненні крымінальнага праследавання ў дачыненні да Лукіна Д.С. і папярэдняга расследавання прызначанай крымінальнай справы на падставе п.2 ч.1 арт.29 КПК, з'яўляецца законным і абгрунтаваным, паколькі ў ходзе папярэдняга расследавання крымінальнай справы вызначана, што ў Лукіна Д.С. падчас прыняцця грошай напавер адсутнічаў намер на іх раскраданне”.*

Аб якім законным і абгрунтаваным расследаванні можна казаць, калі даўжнік на допыце заяўляе (цытую па матэрыялах следства): *«Также хочу уточнить, что все даты я называю примерно, так как из-за большого количества людей, которым я должен, я даты не запоминаю, я всегда пояснял, что скоро отдам, хотя понимал, что в назначенный день я их не отдам, но всегда намеревался их отдать»*. Такі “добры намер” даўжніка, як выцякае з матэрыялаў справы, прывёў да таго, што ён вымушаны быў узяць крэдыт у МТБанку на суму 6000 рублёў (2017 г.). Аднак каму, якія сумы і калі з гэтага крэдыту былі вернуты грошы, пракурора і следчыя органы не цікавіць. Былая яго жонка заявіла, што нават не ведала пра яго і што крэдыт за кватэру, якая будавалася, вярталі яе бацькі.

Абсурднай, лічу, выглядае спасылка следчай Н.І.Навіцкай на тое, што даўжнік, гуляючы ў букмекерскіх канторах, меў на мэце атрыманне прыбытку і імкненне разлічыцца з пацярпелымі. Відаць, што эканамічная падрыхтоўка юрыстаў у нашых ВНУ з'яўляецца не зусім дасканалай, калі старшы лейтэнант юстыцыі не ўяўляе, што такое прыбытак і лічыць магчымым атрыманне яго гульцамі букмекерскіх кантор. Калі ўжо і казаць пра гэту эканамічную катэгорыю, дык толькі ў дачыненні да саміх кантор, а не тых, хто робіць стаўкі. Дарэчы, заўважу, што гуляе даўжнік з 2006 года і дзіўна, што за 12 год не мог з “прыбытку” разлічыцца з людзьмі. Чалавека лячыць ад гульнявой залежнасці трэба, а не справу прыпыняць.

А як разумець такі прававы пасаж следчай: *“при получении займов действовал от своего имени, не скрывался”*. А хіба магчыма ў нашай краіне ўвогуле ўзяць пазыку не на сваё імя? Аднак сабраць грошы з бацькоў на ўтрыманне дзяцей у летнім лагеры – гэта рэальна. Менавіта такую фінансавую афёру і здзейсніў наш “герой”. Не цяжка здагадацца, што ні лагера, ні вернутых грошай бацькі не атрымалі. Такіх бацькоў, праўда, было менш, чым нас, але факт меў месца і не знайшоў свайго развіцця ў матэрыялах следства. Вось пасля гэтай афёры ён і вымушаны быў сысці са школы, вядома, па ўзгадненні бакоў. Нават пытання, чаму ён вымушаны быў пакінуць школу, не задавалася.

Такі “ўсебаковы, поўны і аб'ектыўны” разгляд справы следчымі органамі Чэрвеньскага раёна не мог нас задаволіць і мы вымушаны былі звярнуцца з чарговай скаргай у пракуратуру Мінскай вобласці. Адтуль мы атрымалі першае станоўчае паведамленне, што *“пракуратурай вобласці 11.05.2018 г. дадзенае рашэнне адменена, крымінальная справа накіравана пракурору Чэрвеньскага раёна для арганізацыі дататковага расследавання”.*

Аднак радасць наша была заўчаснай. Дадатковае расследаванне было звездзена да наведвання следчай Н.І.Навіцкай пацярпелых па месцы працы (пражывання) і атрымання адказаў на тры аднолькавыя для ўсіх пытанні: “1) Давали ли мы деньги для игры в букмекерских конторах? 2) Просил ли должник отсрочить долг? 3) Одолжили бы ему еще деньги, если бы он обратился с такой просьбой?”. Вядома, што ўсе пацярпелыя далі на гэтыя пытанні адмоўныя адказы. Як мне стала вядома пазней, гэтыя пытанні павінны былі даць адказ адносна наяўнасці свядомасці ў даўжніка. Па словах следчай Н.І.Навіцкай, са свядомасцю ў яго ўсё ў парадку. Таму следчая адразу паведаміла ўсім пацярпелым аб узнаўленні прыпыненага папярэдняга расследавання (28.05.2018 г.), затым – аб яго прыпыненні ( 31.05.2018 г.). Амаль праз месяц, 25 чеэрвеня 2018 года, аднaчасова атрымалі два чарговыя паведамленні, адно з якіх “Аб узнаўленні крымінальнай справы”, а другое – “Аб прыпыненні папярэдняга расследавання і крымінальнага пераследу”. Ад такога “футбола” прытаміліся ўсе пацярпелыя і не ведаюць, дзе шукаць паратунку і звярнуліся да мяне з просьбай аб звароце ў газету.

Цяжка зразумець логіку нашага заканадаўства, калі здаровы 32-гадовы мужчына даўным-даўно займаецца ашуканствам людзей і ў нашай прававой дзяржаве нельга знайсці на яго ўправы. Тое, што такая махлярская дзейнасць будзе працягвацца, сумненняў не выклікае, таму як яшчэ Цыцэрон казаў: *“Найвялікшае заахвочванне злачыннасці – беспакаранасць”.*

А як далей працаваць настаўнікам і вучыць дзяцей справядлівасці? На маю прапанову ўсім пацярпелым звяртацца ў суд усе адказвалі: “А што толку?” І спасылаліся на практыку законнага спагнання сваіх грошай мною і тымі, хто ўжо звяртаўся ў суд. Людзі не вераць, што можна знайсці прававое рашэнне праблемы. Можа, неабходна ўносіць змены ў наша заканадаўства па прыкладзе Расіі і ўводзіць інстытут калектараў? Нагадаю, што апошні закон “Аб выканаўчай вытворчасці” быў прыняты ў 2017 годзе. Як яго “карыстальнік”, магу ўпэўнена сцвярджаць, што ён вельмі недасканалы. Тысячы спраў знаходзяцца без руху ў аддзелах прымусовага выканання краіны, таму як дадзены і іншыя законы не дазваляюць не толькі спагнаць грошы такім пацярпелым, як я, але і аліменты на дзяцей і гэтак далей.

Пры гэтым не магу не звярнуць увагу на тое, што структур, якія павінны стаяць на абароне правоў людзей, у нашай краіне вельмі шмат. Возьмем Чэрвеньскі раён з прыкладна 35 тысячамі чалавек насельніцтва. У аддзеле следчага камітэта, напэўна, працуюць не менш двух дзясяткаў супрацоўнікаў. Статыстыка сведчыць, што за год у раёне здзяйсняецца каля 500 злачынстваў (без адміністрацыйных правапарушэнняў). Атрымліваецца, што на аднаго супрацоўніка прыпадае ў год 25 спраў, звязаных са злачынствам. Мне здаецца, што гэта не шмат. А калі звярнуць увагу на іх раскрывальнасць (75%), дык увогуле ўзнікае пытанне “а ці ў каня корм?”.

Да апошняга часу я вельмі скептычна ставіўся да слоў прэзідэнта Беларусі, што справядлівасць вышэй за закон. Аднак калі сутыкнуўся з нашай прававой рэчаіснасцю, зразумеў, што сказаны яны не выпадкова. Мяркую, не толькі людскі боль яны нясуць у сабе, але і вялікія хібы нашага заканадаўства. Гэта і дае мне падставы сумнявацца ў магчымасці аб'ектыўнага прававога рашэння нашай праблемы. Можа, тады спрацуюць словы прэзідэнта, што справядлівасць вышэй за закон?

**З павагай і ўдзячнасцю –**
**Вячаслаў САСНОЎСКІ, інвалід 2-й групы, жыхар г.п.Смілавічы Чэрвеньскага раёна.**

СТРАТА

# РАЗВІТАННЕ з Мікалаем Іванавічам Дземянцеем

*10 ліпеня памёр былы старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мікалай Іванавіч Дзямянцей.*



Учора адбылося развітанне з Мікалаем Іванавічам. Урадавую камісію па арганізацыі пахавання ўзначаліла Мар'яна Шчоткіна, віцэ-спікер Савета Рэспублікі. Паніхіда праходзіла ў Доме афіцэраў, што ў цэнтры Мінска.

Як вядома, спачуванне родным М.Дземянцея выказаў Аляксандр Лукашэнка, вянок ад якога быў ускладзены ля труны нябожчыка. Глава Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава прыбыла з вялікім букетам руж.

Даніну павагі М.Дземянцею аддаў Станіслаў Шушкевіч, які ўзначаліў Вярхоўны Савет пасля адстаўкі Мікалая Іванавіча. На развітанне з М.Дземянцеем з'явілася вялікая колькасць былых дэпутатаў ВС РБ 12-га склікання.

## ЯГО ВЕХІ

Мікалай Іванавіч Дзямянцей нарадзіўся 25 мая 1930 года ў вёсцы Хотліна Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці.

Пасля школы закончыў Смальянскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Быў накіраваны на выкладчыцкую работу ў Віцебскую сельскагаспадарчую школу па падрыхтоўцы кадраў сярэдняга звяна – брыгадзіраў, загадчыкаў ферм, бухгалтараў калгасаў, саўгасаў.

Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1959) і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1964). Працаваў галоўным аграномам і дырэктарам МТС у Полацкім раёне. У 1958–1962 гадах інструктар Віцебскага абкама партыі, другі сакратар Віцебскага райкама КПБ, старшыня Віцебскага райвыканкама. З 1964 года інструктар, намеснік загадчыка, загадчык сельскагаспадарчага аддзела Віцебскага абкама КПБ, першы сакратар Ушацкага райкама КПБ. З 1970 года інспектар ЦК КПБ, а з 1974 года – сакратар Віцебскага абкама КПБ.

1989–1990 гг. – старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

У 1990–1991 гадах узначальваў Вярхоўны Савет БССР 12-га склікання. Пад яго старшынствам Вярхоўны Савет 27 ліпеня 1990 года прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР.

1997–2000 гг. – член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ па прэзідэнцкай квоце.

## ШЧЫРЫЯ СЛОВЫ

### Сяргей КАЛЯКІН, старшыня партыі «Справядлівы свет»:

– На мой погляд, гэта быў добры чалавек, які пражыў доўгае жыццё. Шмат чаго паспеў зрабіць для рэспублікі і для рэгіёнаў, дзе ён працаваў. Доўгае і складанае было яго жыццё. Усё здароўе аддаў радзіме. Апошнім часам больш лячыўся, чым адпачываў.

Я з'яўляюся ягоным пляменнікам. Мая мама – родная сястра Дземянцея.

Апошні раз размаўляў з ім дзён пяць-шэсць таму. Мы з ім гаварылі не пра падзеі ў краіне, яму было не да гэтага. Чалавек займаўся здароўем. У яго было мноства праблем. І з вачыма, і з сэрцам, і з сасудамі.

Былі спрэчкі, разыходжанні, розныя погляды на тое, што адбываецца ў краіне. І гэта нармальна. Аднак пры гэтым у нас былі вельмі добрыя адносіны. Не трэба блытаць палітыку і асабістае жыццё.









ВСТРЕЧИ

# Осень председателя

## *Несколько штрихов из его жизни*

На фоне шикарных особняков, выстроенных в последние годы по обе стороны дороги нынешними «хозяевами жизни», среди которых в свое время было немало бескомпромиссных борцов с привилегиями бывшей высокопоставленной коммунистической партноменклатуры, дачные домики тех самых «махровых партократов» смотрятся весьма и весьма скромно. Даже не верится, что совсем недавно вокруг некоторых из них кипели нешуточные политические страсти, на их критике делались головокружительные карьеры и низвергались авторитеты, а фотографии самих, порой даже незавершенных, строений не сходили с первых полос газет.

Больше других в те годы писали о даче Николая Дементея. Сначала – о ее строительстве, затем – о случившемся пожаре…

О следах огня, похозяйничавшего в доме более десятка лет назад, сейчас напоминают несколько обгоревших дощечек на чудом уцелевшем крыльце да распиленные на дрова и аккуратно сложенные возле сарая чурки бревен, служивших когда-то стенами. Хотя пожарные приехали на горевшую дачу через несколько минут после вызова и не дали сгореть дому, как говорится, дотла, бед огонь натворил немало – выгорели углы, окна, потолок, поврежденным оказался пол…

Следственные органы затем долго и скрупулезно устанавливали причину поджога: Николай Иванович успел застраховать строение, и за него, если пожар произошел не по вине хозяина, полагалась компенсация. Выключенный электрорубильник, сохранившиеся за заслонкой обрывки брошенных в печку газет однозначно указывали на поджог снаружи. Страховку Дементею выплатили, но поджигателя или поджигателей так и не нашли.

Восстанавливать дом было бесполезно. Преступники оказались грамотными, действовали со знанием дела, устроив огонь таким образом, чтобы сразу же обрушились несущие конструкции здания. Строители, которых Николай Иванович пригласил в надежде «запломбировать» выгоревшие стенные проемы, предупредили о новой неприятности: постоянном и устойчивом присутствии в помещении запаха гари. Знакомые, недавние подчиненные, которые находились при высоких должностях, настоятельно советовали Дементею вообще покинуть этот участок и обещали построить ему приличную дачу там, где он пожелает.

На все их заманчивые предложения Николай Иванович отвечал одним словом: нет. В его памяти еще были свежи все подробности давления, приведшие к добровольной отставке с поста Председателя Верховного Совета страны. Вспоминая о произошедшем в парламенте и сопоставляя те события со случившимся на даче, он находил во всем этом немало общего. Уступать, однако, в дачном деле, как это было в парламентском, Дементей не хотел, бежать со своего участка не собирался. На семейном совете с женой Ольгой Ивановной решили: что бы ни ждало впереди, остаться.

Денег, даже с полученной страховкой, на такой же деревянный дом не хватило. Пришлось покупать материалы подешевле – силикатные блоки и белый кирпич. Вдвоем с супругой покрыли рубероидом крышу подвала и, пока строители возводили новое здание, ютились там.

Со стороны все это выглядело по меньшей мере странным. Собственно, объяснить поступок человека, имеющего добротное жилье в одном из самых престижных столичных районов, но добровольно приговорившего себя к тяготам и бытовым неудобствам, вряд ли возможно. Сам же Николай Иванович говорит об этом так: после августа 1991 года город действует на него угнетающе. И если бы он оставался в Минске, то вряд ли бы дожил до нынешних лет. Для него, человека деревенского, в то время куда важнее городских удобств оказалось другое: выстоять, не сломаться психологически. Спасением стали крестьянский труд, дачный участок, где он пропадал с утра до вечера. Несмотря на достаточную близость от столицы, в городе он бывает лишь в крайних случаях: приезжает за пенсией, в поликлинику… или на похороны ушедших друзей.

Зато за эти годы, о чем с гордостью говорит Николай Иванович, он успешно освоил способ прививки плодовых деревьев, десятки которых подарил знакомым. Очень нравится заниматься пчелами – их у него теперь десять семей. И каждого гостя хозяин непременно угощает вкусным янтарным медком. После чего обязательно сводит на пасеку, чтобы показать давно уже забытые пчелиные колоды – подарок друзей из Стародорожского района. Они, правда, нежилые, держит их Николай Иванович в качестве музейных экспонатов. На личном опыте убедился: у пчел Дементея характер чем-то похож на его собственный – незлобивый, спокойный. За все время, пока мы с ним ходили возле ульев, ни одна так и не укусила.

Кроме пасеки и небольшого сада, на даче есть и парничок, где растут огурцы и помидоры. На огороде – грядка картофеля, малина, клубника, у самого крыльца – виноград. К слову, участок Дементею попался не самый лучший: находится у самого подножия русла древней реки, а потому для возделывания пригодна только половина земли.

Обычный рабочий день Николая Ивановича начинается в пять часов утра. Слушает российские новости. В шесть – белорусские. Между ними успевает погонять приемник по «голосам». Затем – на кухню готовить завтрак. После смерти жены, утрату которой он очень тяжело переживает, этой работой приходится заниматься самому.

И весь день – хозяйские заботы. Их у Дементея и без огорода хватает. Одних только дров на зиму нужно не менее двух прицепов, да примерно же столько и угля. Покупать все это приходится за свои средства. С горечью Николай Иванович рассказывал, что за все эти годы никто из местных начальников, прекрасно знающих цены на печное топливо, не только не помог с ним, но даже не поинтересовался, обеспечен ли бывший Председатель Верховного Совета дровами на зиму.

Постоянно навещают Дементея только дети. У них на даче отдельная комната, кровать из фанеры, сделанная, как, впрочем, и почти вся остальная мебель, руками отца. Другие гости бывают в доме Николая Ивановича редко. Раньше хоть по телефону время от времени общались, но после того, как неожиданно сменился его номер, многие связи оборвались. Правда, во время нашей встречи Дементей ждал повторного звонка французской журналистки, изучающей причины распада Советского Союза, которая настойчиво добивалась встречи. Но так и не дождался – телефон после грозы более суток не работал. В основном же Николай Иванович общается со своими соседями по даче, которые, как и он, уйдя в политическую тень, стали заядлыми садоводами и огородниками. И еще с одним живым существом в доме – котом по кличке Котя.

Между грядкой и делами по дому бывший Председатель Верховного Совета БССР пишет свои мемуары. Сначала обдумывает, записывает на диктофон, а затем перекладывает на бумагу. Дошел уже до 1980 года. Но самое интересное – впереди.

Николай Иванович проводил меня до автобусной остановки. Стали под липой. Дементей, посмотрев вверх на пожелтевшие кроны деревьев, затянутое низкими тучами небо, глубоко вздохнул.

– Да, прошло лето.

И столько символического, схожего с его судьбой, было в этих словах, что у меня защемило сердце…

**Николай ЩЕРБАЧЕНЯ,
автор литературной обработки книги Н.И. Дементея «Уроки жизни».**

ПУЛЬС

## Чешское правительство возглавляет миллиардер Андрей Бабиш

Заседание парламента, на котором депутаты должны были утвердить новое правительство Чехии, длилось более 16 часов. Из 196 присутствовавших депутатов в пользу правительства Бабиша проголосовали 105 человек, 91 был против.

На формирование правительства в Чехии потребовалось около девяти месяцев. Большинство партий не хотели сотрудничать с миллиардером Бабишем, которого обвиняют в мошенничестве при получении субсидий от Евросоюза. Сам Бабиш отрицает какие-либо правонарушения. По его словам, он хотел бы сохранить прозападный курс Чехии.

## Пожизненно!

Нурсултан Назарбаев будет пожизненно возглавлять Совет безопасности Казахстана. Это право закреплено в подписанном главой республики законе «О Совете безопасности Республики Казахстан».

До внесения этих поправок главой Совбеза по закону был президент республики. Ранее положение о том, что первый президент Казахстана имеет право пожизненно возглавлять Совбез, было прописано в отдельном правовом акте – «О первом президенте Республики Казахстан», принятом в 2000 году.

## Дети недоедают

ООН заявила о гуманитарных проблемах в Северной Корее. КНДР не удалось справиться с проблемой детского недоедания, отсутствием доступа к чистой воде и нехваткой лекарств, заявил координатор ООН по гуманитарным вопросам Марк Лоукок.

ООН намерена собрать около 95 млн евро, чтобы улучшить ситуацию в здравоохранении и снабжении продовольствием для 6 млн жителей КНДР. На данный момент при поддержке правительств Канады, Швейцарии и Швеции собрано лишь 10 процентов требуемой суммы, отметил Лоукок.

ВНЕ ИГРЫ

## Забастовка против трансфера Роналду



Сотрудники одного из филиалов автомобильного концерна Fiat-Chrysler Automobiles (FCA) в итальянской коммуне Мельфи с 15 по 17 июля проведут забастовку из-за многомиллионного трансфера бомбардира мадридского «Реала» Криштиану Роналду в итальянский «Ювентус». Профсоюзные активисты сочли, что 117 млн евро за переход португальского футболиста – непозволительная сумма в условиях, когда работники Fiat-Chrysler «годами ожидают повышения зарплаты».

Дело в том, что итальянский бизнесмен Андреа Аньелли, входящий в совет директоров Fiat, с 2010 года занимает пост президента «Ювентуса». Устраивая стачку, сотрудники автоконцерна решили продемонстрировать свое недовольство его действиями.

*«Разве нормально, что кто-то зарабатывает миллионы, в то время как тысячи семей живут на зарплату и не могут свести концы с концами? Мы все работаем на одну и ту же компанию, но в эти трудные времена подобный разрыв недопустим»*, – убеждены представители профсоюза.

Роналду – лучший бомбардир в истории «Реала». В 438 играх он забил 451 гол. Его зарплата в «Ювентусе» составит 30 млн евро в год. О переходе игрока в «Ювентус» руководство испанского клуба объявило официально 10 июля.

РАКУРС

## США повторно предупредили о санкциях

Вашингтон напомнил западным фирмам, втянутым в строительство российского газопровода «Северный поток-2» в Германию, что они подвержены риску санкций, и подчеркнул, что Москва использует проект для разделения Европы.

*«Мы поняли, что фирмы, работающие в российском секторе экспортных поставок энергии, занимаются бизнесом, который рискует оказаться под санкциями. Мы считаем, что этот трубопровод подорвет общую энергетическую безопасность и стабильность в Европе, предоставив России еще один инструмент политического принуждения европейских стран, особенно Украины. Россия понимает, что этот проект делит Европу и использует это в своих интересах»*, – сказал агентству Reuters пресс-секретарь Госдепартамента США.

В строительство «Северного потока-2» инвестировали пять западных фирм из Германии, Франции, Британии и Нидерландов.

Напомним, президент США Дональд Трамп обвинил Германию в том, что она стала «пленницей» России из-за ее энергетической зависимости и поддержки плана удвоения пропускной способности газопровода Nord Stream под Балтийским морем в Германию, минуя традиционные маршруты через Украину.

В январе 2018 года компания Nord Stream 2 AG, которая является основным оператором газопровода, заявила, что Германия разрешила строительство газопровода «Северный поток-2».

В начале мая начали строить российский «Северный поток-2». Германия уже выдала все необходимые с ее стороны разрешения для строительства этого газопровода, такое же решение приняли Финляндия и Швеция. Проект еще должен получить разрешение в Дании.

## Украина – инициатор обмена политзаключенных

11 июля на заседании в Минске украинская сторона в Трехсторонней контактной группе подняла вопрос относительно официального ответа РФ на предложение передать 36 россиян в обмен на украинских политзаключенных в РФ.

Об этом сообщила представитель Украины в гуманитарной подгруппе ТКГ, первый вице-спикер Верховной Рады Ирина Геращенко.

*«Наши представители в ТКГ напомнили о срыве договоренностей президентов Украины и РФ относительно гуманитарного визита омбудсменов к узникам и невыполнении этих договоренностей Россией, также отметили, что мы ожидаем 25 июля официального ответа представителей РФ на конкретное и вполне понятное предложение: готовы ли они разморозить вопрос освобождения незаконно удерживаемых, собираются ли забрать 36 граждан РФ, которые хотят вернуться на Родину, и отдать нам Сущенко, Сенцова, Кольченко, Клыха, Карпюка, Панова, Гриба, других украинцев и крымских татар из российских тюрем»*, – написала она.

Также, по словам Геращенко, Украина инициировала проведение расширенного заседания ТКГ с участием омбудсменов по вопросам согласования списков удерживаемых для освобождения политзаключенных в РФ, Донбассе и Крыму.

СОСЕДИ

## Президент Литвы честно строит дом

Президент Литвы **Даля Грибаускайте** строит собственный дом. По меркам Литвы, не такой и дорогой. Эскизы дома журналистам представили авторы проекта строительства, сообщает Delfi.lt.

В Литве президент обязан вносить в декларацию и отчитываться за все расходы свыше 3000 евро. Так журналистам стало известно, что в прошлом году Грибаускайте купила участок за 75 тысяч евро.

Судя по ценам на порталах по продаже недвижимости (ee24.ru и volmis.lt) – это средняя цена за участок под Вильнюсом площадью около 10 соток.

На стройматериалы и отделку Грибаускайте потратила еще около 290 тысяч евро. В сумме уже израсходовано больше 366 тысяч евро. Если строительство дома с участком обойдется в 400 тысяч, то это обычная цена за коттедж с террасой и гаражом, судя по данным литовских порталов недвижимости.

После окончания срока правления Дале Грибаускайте придется выехать из президентских апартаментов, поэтому она решила купить собственное жилье, рассказала ее советник Дайва Ульбинайте.

Состояние Грибаускайте превышает 850 тысяч евро и каждый год увеличивается. Она получает чуть больше 66 тысяч евро зарплаты «на руки» каждый год. Плюс доходы от ценных бумаг и банковских вкладов.

В литовской политике она с 1991 года, уже больше 27 лет.

Напомним, последний президентский срок Грибаускайте подходит к концу в мае 2019 года. Недавнее исследование показало – литовцы вполне довольны президентом, за свою работу в среднем она получила оценку 8 из 10.







НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

## Вялес



Далёка за межамі Беларусі вядомы горад Брэст. Легенда сведчыць, што заснавальнікам яго стаў адзін багаты купец. Вёз ён свой тавар праз тутэйшыя балоты. Ды збіўся з дарогі, трапіў у такую багну, што вось-вось з жыццём развітаецца. Але не разгубіўся, пачаў масціць дарогу бярозамі ды бярозамі. Так і ўратаваўся разам з таварам. А каб аддзячыць вышэйшай сіле за спагаду, заснаваў капішча ў гонар бога Вялеса, прынёс яму ахвяры. Неўзабаве на гэтым месцы вырас горад, названы Бярэсцем.

Хто ж быў шанаваны і спагадлівы Вялес, якога называлі яшчэ Воласам? Гэта адзін з самых старажытных дахрысціянскіх багоў. Нароўні са Сварогам і Перуном належаў да вярхоўных багоў дахрысціянскага пантэона. Свята Вялеса адзначалі 5 ліпеня па старым стылі. Вялесавым нябесным палацам было сузор'е Вялікай Мядзведзіцы, што на Млечным Шляху. Калі галоўны бог багоў Пярун лічыўся богам князя і яго дружыны, дык Вялес – усяго іншага люду.

Вялеса называлі вялікім падземным богам, апекуном багацця, валадаром мудрасці, знаўцам чараў. Як уладар падземнага гаспадарства і трыдзесятага царства, ён загадваў таемным светам памерлых, дзе горы і дрэвы былі з чысцюткага золата. Меў статус вышэйшага суддзі, пераносіў душы памерлых з рэальнага свету ў нябыццё, узважваў іх на шалях і абвяшчаў свой прысуд: накіроўваўца ім у рай ці ў пекла.

Волас – значыць валахаты, касматы. Ён магутны мядзведзь альбо чалавек у мядзведжай скуры. Высокага росту, плячысты, як сапраўдны волат, меў доўгія валасы і бараду. Часам, аднак, яго ўяўлялі старым згорбленым дзядком, кудлатым і трохвокім. У загадках называлі лысым валом, яго ныя выявы часам былі з бычынымі рагамі і місай малака ў руцэ. Паляўнічыя, калі збіраліся на мядзведзя, пераапраналіся ў шкуру гэтага звера. Верагодна, спачатку Вялес быў боствам паляўнічай здабычы – «богам мёртвага звера». Але ўжо ў бронзавым веку, калі пачаліся перасяленні пастухоў, Вялес-мядзведзь стаў апекуном і свойскай жывёлы. Ці не за гэта ў «Аповесці мінулых гадоў» Вялеса назвалі «скоцій бог»?

Галоўным багаццем тады і нават грашыма лічылася свойская жывёла. Людзі з яе дапамогай апрацоўвалі зямлю. З яе атрымлівалі воўну, скуру і футра для адзення. Дзякуючы ёй сяляне мелі малако, сыр, масла, а майстры ды ўмельцы – рогі і косці. Лічыцца, што першапачаткова нават слова «багаты» азначала «мае бога», «карыстаецца заступніцтвам бога». А вось «убогі» значыла «пазбаўлены бога». З усіх усходніх славян найбольш шанавалі Вялеса беларусы. Дрэнных гаспадароў ён караў беднасцю ўраджаем, а дбайных заахвочваў багаццем. Сяляне ахвяравалі яму апошнюю жменю нязжатых каласоў. Іх завязвалі вузлом і пакідалі на ржышчы – Вялесу «на бародку». Часам побач ставілі апошні сноп – «дзедаву бараду», пазней ён цэлы год захоўваўся на покуці ў сялянскіх хатах. Мо менавіта адтуль пайшла традыцыя спраўляць дажынкі?

Вялесавымі дрэвамі лічыліся арэх і елка. У іншых месцах свяшчэнным быў і ясень, з якога рабілі абярэгі. А яшчэ імя Вялеса звязана з культам камянёў. Яму належалі камяні-крауцы і камяні-шацы, вужыныя і змеевы камяні, камяні, якія называліся Вол, Валы, Быкі. Днём Вялеса лічыўся чацвер масленічнага тыдня. На Масленіцу пяклі аладкі і частавалі імі свайго апекуна.

Вялес быў для людзей такім «свойскім» богам, што ягонае апекаванне ўвесь час пашыралася. Неўзабаве ён стаў богам магіі, чараўніцтва і мудрасці. Пасля – апекуном музыкаў і паэтаў, спевакоў і ўсіх творчых людзей. Вядомы даследчык беларускай даўніны Адам Кіркор зазначае, што хадзіў Вялес з дудкай і жалейкай. У гэтым сэнсе ён адпавядае грэчаскаму богу Апалону, які таксама апекаваўся мастацтвамі. Паслугоўвалі Вялесу чарадзейныя птушкі Гамаюн і Воран. Яго даручэнні выконваў кот Баюн. Нездарма, відаць, у «Слове пра паход Ігаравы» вешчы Баян называецца ўнукам Вялеса, які атрымаў свой талент з неба.

Аднак і гэта не ўсе іпастасі Вялеса. Лічылі, што Вялес апякуецца таксама вытокамі рэк, крыніцамі і вадой наогул, але толькі той, што ў зямлі. У гэтым наш Вялес нагадвае старажытнаіндыйскага Варуна, які панаваў над морамі і рэкамі. Мо за гэта ў яго гонар назвалі азёры, якія знаходзяцца на Браслаўшчыне, – Волас Паўднёвы і Волас Паўночны? Ля аднаго з іх у старадаўнасці было капішча Вялеса.

Вялеса называлі богам закаханых, яму адводзілі ролю спрыяльніка ў прыбаўленні сям'і. У дзень Вялеса можна было ўкрасці будучую жонку, праўда, з яе згоды. Калі праз тры дні «злодзей» вяртаўся да цешчы, каб забраць падушкі, яму даравалі гэты грэх. Маладая сям'я атрымлівала благаславенне бацькоў і пачынала жыць у згодзе ды ладзе, пад зычлівай апекай Вялеса нараджаючы дзетак.

З тых далёкіх часоў захавалася традыцыя адзначаць свята Аўласа, альбо Уласа, Валоссе. У некаторых месцах удзельнічалі ў ім толькі жанчыны, за што і назвалі свята «бабскім Уласам». Над мужчынамі пацешаліся, жартавалі, іх бралі ў палон. Каб вызваліцца, трэба было адкупіцца. А жанчыны ўсю ноч навылёт забаўляліся півам. Піць яго трэба было цэлымі даёнкамі – каб каровы давалі шмат малака. Дык мо гэта быў наш своеасаблівы беларускі Дзень Святога Валянціна?

У гэты ж дзень жанчыны прымалі ў сваё грона нядаўніх замужніц. У іх гонар спявалі песні, частавалі прысмакамі, выказвалі спадзяванне, што неўзабаве яны стануць добрымі іхнімі супольніцамі. Жанчыны пакеплівалі з непаважлівых ды нядбатных кавалераў. Халасцяку, які доўга не мог ажаніцца, завальвалі дзверы вялізнай калодай, якая лічылася сімвалам бясплоддзя.

З прыняццем хрысціянства беларусы пачалі шанаваць Святога Мікалая, які лічыцца апекуном жывёлы і працягваў традыцыі Вялеса.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Баранье блеяние Франца Клинцевича

Болельщики помнят: матч сборных России и Хорватии на чемпионате мира по футболу принес совершенно неожиданный результат. Но я сегодня не о победе Хорватии: победа по пенальти, как говорится, – дело случая. Я – о заявлении члена Совета Федерации Федерального Собрания Российской Федерации **Франца Клинцевича** о хорватах как *«предателях славянского братства»*. Повод был прост: тренер сборной Хорватии посвятил победу своей команды... Украине!

Придется кое о чем напомнить уроженцу Ошмянщины господину Клинцевичу.

Славянская группа языков включает в себя следующие языки, носители которых являются сегодня государствообразующими нациями (перечисляем в последовательности числа людей, признающих тот или иной язык родным): русский, украинский, польский, сербохорватский, чешский, болгарский, белорусский, словацкий, словенский, македонский.

Носители этих языков, их диалектов, а также ряда так называемых микроязыков сегодня и образуют то, что можно назвать славянским миром.

Разумеется, носителей русского языка – больше всего. Сегодня его признают родным около 250 миллионов человек. Большинство из них живет в России.

Посмотрим, как складывались отношения России с другими славянскими народами.

Польшу делили трижды – в восемнадцатом веке. В девятнадцатом веке под давлением обстоятельств (Наполеон создал Герцогство Варшавское, а быть еще хуже Наполеона Александру Павловичу не хотелось) создали относительно автономное Царство Польское, причем автономию эту благополучно ликвидировали спустя полвека. В двадцатом веке предоставили суверенитет, но уже через двадцать лет снова с радостью разделили ее с заклятым врагом – Германией, и лишь падение Третьего Рейха, а затем СССР позволило Польше как-то определиться со своим будущим самостоятельно.

Земли востока современной Беларуси благополучно завоевали еще при Алексее Михайловиче, а остальное оттяпали, дерибаня Польшу. Все это – под предлогом защиты единоверцев, которым и в Речи Посполитой (судя по наличию унии) не слишком-то многое и угрожало. В двадцатом веке под давлением обстоятельств (горстка, по мнению русских большевиков, интеллектуалов объявили о создании БНР) предоставили статус союзной республики, но радостно отстреляли две третьи национальной интеллигенции, завершив при Машерове массовой русификацией.

Украинцам поначалу везло. Старый усатый проходимец Богдан Хмельницкий выторговал у Алексея Михайловича, разорившего дотла белорусский Полоцк, автономию на правах вассала. Ничего. Спустя сто лет автономия гетманщины была похерена Екатериной Второй, а уж любая попытка возрождения украинской национальной культуры – что во времена Шевченко, Кулиша и Костомарова, что в часы Хвылевого и Семенко – заканчивалась либо тюрьмой и ссылкой, либо расстрелом. Жаль, Левко Лукьяненко умер – он бы многое мог рассказать о братстве украинского и русского народов. Лагерном братстве, кстати.

Чехов не трогали – до поры. В девятнадцатом веке противопоставляли их полякам: вот, дескать, Вацлав Ганка – правильный славянин, прорусский, а Иоахим Лелевель – неправильный, ибо антирусский (после восстания 1831 года, куда его вполне русский сенатор Новосильцов из Вильны и выпихнул). Ничего! В двадцатом веке отыгрались! Мне нужно напоминать про 1968 год и русские танки в Праге?

Носителям южной (балканской) ветви славянских языков сильно досталось уже в новейшее время. Господин Клинцевич действительно будет меня уверять, что Слободан Милошевич являлся выразителем воли народов, входивших в состав Югославии? Или Радослав Караджич? Позвольте не согласиться. Эти господа, а также подобные им – вроде Франьо Туджмана – по-живому рвали связи между народами, которым в это время выпало сомнительное «счастье» находиться под их властью. Все это время Россия поддерживала именно этих господ. До того, напомню, был опыт расстрела югославской элиты при Сталине, правопреемником которого сегодня так успешно позиционируется Кремль. А после этого – недавняя попытка государственного переворота в Сербии, который, по мнению сербских медиа, как раз Кремль и организовывал.

Кто остается? Болгары? Они что – от хорошей жизни помчались в НАТО? Не думаю. Они ведь хорошо помнят, что после освобождения от власти Турции в девятнадцатом веке Петербург навязал им в качестве царя немецкого принца. Просто в силу родственных с принцем отношений и дабы не допустить создания республики.

Так покажите мне хотя бы один народ из числа славянских, который бы хотя бы раз не был предан теми, чьи идеологические наследники усердно позиционируются в качестве «лидера славянского мира». Зуб даю, господин Клинцевич, такого нет. Ну, лужицкие сербы, кашубы – может быть. Но за всех, если можно, постарайтесь не говорить.

Вторая мировая война, скажете? Ну, началась она, положим, с участием Иосифа Виссарионовича – грузина, но вполне себе российского великодержавника. А по поводу победы – так Александр Лукашенко недавно хорошо ответил: «Кому-то неймется, что удивительно – в России, приватизировать эту Победу. Как будто не было на войне других – белорусов, украинцев, грузин, армян, таджиков, туркмен... Весь Советский Союз воевал. Погибли даже не сотни и не тысячи, а сотни тысяч. Мы каждого третьего искалечили и потеряли. Вся Беларусь – это памятник. Тысячи сожженных деревень, ни в чем не повинных людей, стариков, детей». А ведь правильно сказал. Туда еще добавить варшавское восстание, балканских партизан, американский ленд-лиз, британскую войну в африканских колониях, французское Сопротивление – оно еще точнее будет, полнее, объемнее.

И это – не все. Профессиональные историки, специализирующиеся на истории своих народов, добавить могут. За что, собственно говоря, их из России уже начали даже высылать – напомню недавнюю историю с краковским профессором Хенриком Глембоцким.

Да, трудно живется славянским народам. Непросто. Но все лучше, чем с Клинцевичем в качестве провозвестника славянского братства на условиях «Единой России» и «Газпрома». Как говорится, чей бы баран блеял…

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

(Працяг. Пачатак у №№31–54.)

## Братанне партызана з паліцэйскімі

На пачатку 1944 года дзядзька-партызан Валодзя часта наведваў Магільнае разам са сваім сябрам па зброі магілянцам, Антосем Лычом. З вялікай упэўненасцю разважалі яны пра хуткае выгнанне акупантаў з беларускай зямлі. Гаварыў пра гэта дзядзька Валодзя і з нашай мамай. Непакоіў іх лёс трох паліцэйскіх з іх роднай вёскі Літва, магчымае іх пакаранне савецкай уладай пасля вайны. Мама падзяляла задуму Валодзі выратаваць гэтых паліцэйскіх, далучыўшы да ўдзелу ў партызанскім руху. Але калі ў адну з вячэрніх сустрэч даведалася, што брат надосвітку пойдзе сустракацца з імі ў вызначаным месцы ля вёскі Сямёнавічы за тры кіламетры ад Вузды, моцна ўсхвалявалася:

– А ці не думаеш, браток, што яны могуць захапіць цябе і адвесці ў паліцыю, за што атрымаюць ад яе вялікую ўзнагароду?

– У мяне так не здарыцца, – запярэчыў Валодзя. – Днямі я наведваў бацькоў аднаго з літоўскіх паліцэйскіх – сям'ю Шчасновічаў. Яны прасілі ледзь не са слязамі на вачах дапамагчы іх сыну і астатнім двум паліцэйскім перабрацца ў партызаны: маўляў, калі зробіш так, пры жыцці помнік паставім. Вось толькі, – засумняваўся дзядзька Валодзя, – ці прыйдуць яны на сустрэчу са зброяй у руках? У партызанскім атрадзе з гэтым сур'ёзная праблема.

Ва ўмоўленым месцы дзядзьку Валодзю чакалі ў поўным узбраенні тры літоўскія паліцэйскія. Глухімі дарогамі, ляснымі сцежкамі рушылі яны ў бок Магільнага. Была небяспека нарвацца і на паліцэйскіх, і на партызанаў, бо адразу ўзнікла б нямала пытанняў: хто каго і куды вядзе? Пакольні на 5–7 кіламетраў на захад ад Сямёнавічаў гаспадарамі ўсё ж з'яўляліся акупанты – у значнай ступені чыста сімвалічна, – Валодзі ішоў без зброі, нібыта пад канвоем паліцэйскіх. Калі параўняліся з Літвой (у вёску не заходзілі), карабін быў ужо за плячыма Валодзі, і ён крочыў ззаду паліцэйскіх. Рэшту шляху ад Літвы да Магільнага прайшлі ўжо без усялякіх хваляванняў. На месцы пераправы цераз Нёман паліцэйскія адразу ж сарвалі са свайго адзення ўсе знакі адрознення. Пераправай людзей з аднаго берага на другі ўвесь час займаўся Цімох Туміловіч, які партызаніў падчас грамадзянскай вайны. Ён і перавёз дзядзьку Валодзю з яго "жывымі трафеямі". Да партызанскага лагера дабіраліся на магільнянскай падводзе. Здзейснены ў той дзень дзядзькам Валодзем учынак высока ацаніла кіраўніцтва партызанскага атрада. У яго складзе нядаўнія літоўскія паліцэйскія не раз хадзілі на баявыя заданні. У жывых засталіся ўсе члены іх сем'яў: кінулі свае хаты і да самага вызвалення ад акупантаў туліліся ў розных вёсках.

Літоўскія паліцэйскія ўсё жыццё былі шчыра ўдзячныя майму дзядзьку Валодзю. На яго рахунку было нямала геройчнага: быў партызанскім разведчыкам, атрымаў цяжкае раненне падчас падрыву чыгуначнага палатна… Аднак найбольшай сваёй заслугай лічыў гэту аперацыю па дастаўцы літоўскіх паліцэйскіх у партызанскі атрад, бо, не выключана, тым самым выратаваў іх ад вернай смерці ці суровага пакарання савецкім судом. Двое з іх да пенсіі працавалі ў мясцовым калгасе, а трэці – на будоўлях горада Мінска.

## Апошняя сяўба пры акупантах

Я нічога не ведаў ні пра паспяховае контрнаступленне Чырвонай Арміі ў снежні 1941 года пад Масквой, ні пра Сталінградскую бітву, ні пра Курска-Арлоўскую дугу. А вось што ад восені 1943 года ўжо пачалося вызваленне ад акупантаў усходніх раёнаў Беларусі, добра ведаў, бясконца радаваўся і марыў дажыць да тагo радаснага дня. Тады я шмат думаў пра смерць: як клаўся спаць і ўставаў з ложка, як хадзіў за плугам ці цягаў касу, як збіраў у лесе грыбы ці лавіў у Нёмане рыбу. Асабліва пужала думка, што можа загінуць уся наша сям'я і спыніцца наш род. Гэта моцна непакоіла і маму. Яна не раз прасіла брата Валодзю забраць мяне ў партызаны. Маму зусім не палохала, што, калі я пайду ў атрад, ёй давядзецца выконваць усю мужчынскую працу па гаспадарцы. Валодзя наадрэз адмовіўся выконваць просьбу сястры, бо добра ведаў, што ёсць сітуацыі, калі верагоднасць выжывання ў партызанаў роўная нулю. Ён пераконваў мяне застацца дома, добра даглядаць каня, рыхтавацца да веснавых палявых работ.

Яшчэ ніколі магілян, што верылі ў непазбежнасць выгнання акупантаў, так не хвалявала пытанне аднаўлення калгаса, як на пачатку 1944 года. Ад адказу на яго залежалі планы на веснавую сяўбу: маўляў, навошта надрывацца, калі вынікам тваёй працы будзеш распараджацца не ты, а кіраўніцтва калгаса? Такія антыкалгасныя настроі смела выказваліся і ў прысутнасці партызанаў. Тыя ў адзін голас заяўлялі:

– Ніхто калгас аднаўляць не будзе. Ёсць звесткі, што пасля заканчэння вайны ліквідуюць калгасы і на не занятай немцамі савецкай тэрыторыі.

Дарэчы, такія выказванні чуліся з вуснаў нават партызанаў, закінутых з савецкага тылу, якім у дадзеным выпадку давалі веры больш, чым мясцовым.

Як трохі прыгрэла сонца і можна было апрацоўваць зямлю, актыўна ўзяліся за справу ўсе – і тыя, хто жадаў, і тыя, хто не жадаў аднаўлення калгаса. Наша сям'я належала да апошніх. Я ўжо няблага спраўляўся з гаспадаркай. Не мелася прэтэнзій да каня, вупражы, сельскагаспадарчага інвентару. Радавала, што ўжо шмат у чым мог дапамагаць мне дзевяцігадовы брат Геня. Калі ўсё добра ўдавалася з працай, ехалі дамоў сапраўднымі героямі, усю дарогу спявалі піянерскія і народныя песні, прыцягваючы да сябе ўвагу навакольных.

Магілян здзіўляла, што ин гэты раз ходам сяўбы вельмі цікавяцца партызаны. А цікавіліся таму, што на гэта мелася ўказанне зверху, бо лічылі, што ўраджаем 1944 года ўжо будзе распараджацца савецкая ўлада. Пры патрэбе партызаны дапамагалі людзям коньмі, самі ішлі за плугам. Мама не пярэчыла, калі хтосьці з партызанаў прыходзіў і мне на замену.

Зусім не так, як у мінулыя гады, паводзілі сябе акупанты, якія страцілі ўсялякую надзею затрымацца ў Беларусі. Каб як мага менш збожжа засыпалі ў агульны савецкі засек, яны не раз адкрывалі пальбу па мірных працаўніках палёў. Такі лёс не абмінуў Антося Дзесюкевіча (па-вулічнаму – Шышкаў) і яго няпаўналетняга сына. Едучы дарогай пры лесе, карнікі заўважылі, што на далёкай адлегласці ад іх селянін арэ зямлю. Трапны выстрал снайпера – і Антось паваліўся на зямлю. Яго сын кінуўся да бацькі, але не дабег, бо і сам атрымаў кулю ў галаву.

Нягледзячы на істотную дапамогу партызанаў, сяўба зацягнулася. Магілянам часта даводзілася ўцякаць ад нямецкіх рабаўнікоў у лес. Здаралася, што дома адсутнічалі па два-тры дні. Аднойчы на загадзе партызанаў вымушаны былі хавацца не ў зямлянках, а проста ў балоцістай мясцовасці. Каб забяспечыць канспірацыю, партызаны забаранялі нават прыносіць ваду з Нёмана, таму карысталіся балотнай, выкапаўшы дзеля яе забалаванія неглыбокія ямкі. Трое сутак жылі ў такіх умовах. Пасля вяртання дахаты два-тры дні набіраліся сіл і толькі на трэці выйшлі ў поле.

Сенажаць распачалі толькі ў апошнюю дэкаду чэрвеня 1944 года. Працавалі на Малым лузе, што адразу ж за Магільным. У апошнія дні чэрвеня, ідучы дамоў на абед, у канцы вуліцы Кавалёўскай, як яна паварочвае на Язвіны, сутыкнуліся з чатырма коннымі чырвонаармейцамі з чырвонымі сцяжкамі ў руках. Нарэшце прыйшло доўгачаканае вызваленне! Ад вялікай радасці людзі стараліся дакрануцца да салдатаў, гладзілі іх коней, цалавалі сцяжкі. Ад такога не мог устрымацца і я. Чырвонаармейцы, у адрозненне ад партызанаў, былі хударлявымі, дужа стомленымі. Прайграваліі ў параўнанні з партызанскімі і іх коні.

Не мінула і трох-пяці хвілінаў, як ужо жанчыны наладзілі пачастунак для чырвонаармейцаў. Сей-той з мужчын трымаў у руках пляшку з самагонкай. Не абышлося без спрэчак: частаваць ёю ці не? Вырашылі: не больш як па 200 грамаў, бо салдаты ж выконваюць разведзаданне.

"Застолле" доўжылася каля дзвюх гадзін. Ніхто не пашкадаваў сенажаць. Магіляне пачалі святкаваць доўгачаканую перамогу. Убачыўшы партызана, абавязкова запрашалі ў хату, садзілі за стол і амаль у кожным выпадку задавалі пытанне:

– Ну дык гэта канчатковае вызваленне ці ў нашай мясцовасці яшчэ будуць бai?

Партызаны давалі суцяшальныя адказы і не памыліліся.

У той незабыўны дзень я быў на сёмым небе ад шчасця. Усё паўтараў: "Я жывы! Я жывы!"

З поўнай упэўненасцю ў перамогу спакойна, як калісьці, укладзіся спаць. Калі развіднелася, ніхто і не думаў уставаць з ложкаў, бо вырашылі ў першы дзень пасля вызвалення не ісці на працу. Мне не хацелася падымацца з пасцелі, бо моцна балеў жывот. Нават пачуўшы магутны гул савецкіх танкаў, не падняўся. А ўбачыць іх было маёй марай. Такі мой стан, натуральна, не мог не напужаць маму. Як заўсёды ў падобных выпадках, па дапамогу яна звярнулася да суседкі цёткі Ганны з процілеглага боку вуліцы. Лячыла яна мяне народнымі сродкамі: тры разы на дзень піў па сталовай лыжцы самаробнага дзёгцю і гарпатыны. Гэта дапамагло ці не, не ведаю, але праз тры дні выйшаў на вуліцу, сеў на прызбу і ўсё разгледзеў, як рухаюцца савецкія войскі. Цяпер ужо зусім не тыя былі салдаты, не тая была тэхніка, што ў канцы чэрвеня 1941 года. Чырвонаармейцы ўсміхаліся, у кагосьці ў руках былі гітара ці гармонік.

Вось толькі калі за тэхнікай рушылі абозы, прабалемы нумар адзін стала, як захаваць каня. Майго забралі ў абмен на нейкага здыхлю. Дзяўчатам і маладым жанчынам даводзілася сур'ёзна асцерагацца згвалтавання. Маці выганяла на пашу карову толькі ўранку, у склеп па бульбу лазіла толькі ў маёй прысутнасці.

У сувязі з маёй хваробай дзядзька Валодзя, у якога была ваенная сярэдняя медыцынская адукацыя, раіў не спяшацца з выхадам на працу. Я думаю, ён даў больш-менш правільны адказ на пытанне мамы, што са мной здарылася: так адбіўся на маім арганізме рэзкі пераход ад нервовага напружання да спакойнага жыцця. На працягу некалькіх дзесяткаў гадоў пасля я звёдваў сур'ёзныя праблемы са здароўем: развіўся стэноз брамніка страўніка – спажытая страва з вялікай цяжкасцю трапляла ў яго. Усё гэта не магло не адбіцца на маім фізічным развіцці: звычайна да нормы недабіраў 10–15 кілаграмаў. Хірургічнага ўмяшання пазбегнуць не ўдалося. Правялі яго ўвосень 1969 года, толькі пасля гэтага я перастаў адчуваць на сабе цяжкія наступствы вайны і акупацыі.

(Працяг у наступных нумарах.)

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# ...І ці шмат яны скралі?

*У мінулым нумары "Народнай Волі" расказала, што за хабар затрыманы старшыня Браслаўскага райвыканкама **Уладзімір Драневскі** і яго жонка **Алена** – начальнік аддзела эканомікі раённага выканаўчага камітэта.*

*Хіба гэта сенсацыя?*

*У краіне кожны год па такіх артыкулах судзяць чыноўнікаў, аднак іх гэта чамусьці не спыняе, як і тое, што за атрыманне хабару па беларускіх законах пагражае тэрмін да 15 гадоў калоніі.*

*Можа, нагадаеце, каго з чыноўнікаў-вертыкальшчыкаў пасадзілі апошнім часам і ці шмат яны скралі?*

У.КОВАЛЬ, г.Маладзечна.

Сапраўды, у Беларусі ўжо становіцца нормай – суды над чыноўнікамі-карупцыянерамі. Па дадзеных МУС, толькі ў 2017 годзе па карупцыйных артыкулах было асуджана амаль 800 (!) чыноўнікаў. Трапляюцца на хабары і злоўжываннях аграрнікі, работнікі сферы гандлю, медыцыны, адукацыі, прамысловасці і нярэдка – кіраўнікі выканкамаў альбо іх намеснікі.

Як правіла, працэсы над вертыкальшчыкамі атрымліваюцца гучнымі. У судах усплываюць велізарныя сумы хабару, які яны бралі (даходзіць да 250 тысяч долараў, як у выпадку з былым намеснікам старшыні Мінгарвыканкама Ігарам Васільевым), кватэрныя пытанні (у экс-мэра Гомеля Віктара Піліпца выявіліся тры раскошныя кватэры) і г.д.

Суды, вядома ж, выносяць абвінавачвальныя прысуды, хаця не заўсёды прызначаюць тэрміны, якія просіць дзяржабвінавачанне. Караюць чыноўнікаў немалымі тэрмінамі – 5 гадоў, сем, восем, 14. Вось толькі некалькі прыкладаў апошніх гадоў:

**Віктар Піліпец** – экс-старшыня Гомельскага выканкама ў красавіку 2014 года быў прыгавораны да пяці гадоў пазбаўлення волі. Праз тры гады ён выйшаў на волю па амністыі.

**Ігар Васільеў** – першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама быў асуджаны на 14 гадоў у 2014 годзе за атрыманне хабару ў асабліва буйных памерах. Дзяржабвінавачанне настойвала на 15 гадах пазбаўлення волі.

**Дзмітрый Мінянкоў** – намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама ў 2014 годзе атрымаў 14 гадоў калоніі за афёру з закупкай племянной жывёлы з Сербіі. Памер толькі аднаго хабару складаў больш за 20 тысяч долараў.

**Яўген Семянкевіч** – былы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама ў 2015 годзе быў асуджаны на 3 гады за махінацыі з жыллём.

**Антон Глаўніцкі** – былы старшыня Лідскага райвыканкама асуджаны ў 2016 годзе на 7,5 года за хабар. У судзе было даказана, што ён праваручаў махінацыі з шэнгенскімі візамі і разам з хаўруснікам атрымаў за «паслугі» каля 235 млн рублёў.

**Іосіф Ляшкевіч** – былы намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама ў 2016 годзе прыгавораны да васьмі гадоў пазбаўлення волі за перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў і атрыманні хабару (у судзе гучалі сумы ў межах 100 тысяч долараў).

У мінулым годзе на 8 гадоў за хабар (па версіі сродкі на суму больш за 20 тысяч долараў) асуджаны **Андрэй Каваленка** – былы старшыня Бабруйскага гарвыканкама.

У гэтым годзе акрамя кіраўніка Браслаўскага раёна Уладзіміра Драневскага пад крымінальны перасьлед за атрыманне хабару трапіў ужо былы старшыня Гомельскага райвыканкама **Аляксандр Сітніца**.

Але шмат чыноўнікаў у Беларусі пазбягаюць пакарання.

Так, у снежні 2017 года суд прыгаварыў за хабар былога кіраўніка Салігорскага раёна **Аляксандра Рымашэўскага** да 8 гадоў пазбаўлення волі, але не прайшло і паўгода, як Рымашэўскі апынуўся на волі – быў памілаваны прэзідэнтам. Таксама нядаўна стала вядома, што памілаваны і былы старшыня выканкама Ленінскага раёна Мінска **Валерый Кулеш**, яго справа нават не дайшла да суда. Абвінавачваўся ён у перавышэнні службовых паўнамоцтваў.

У свой час не дайшла да суда і справа экс-старшыні і экс-намесніка старшыні Полацкага гарвыканкама **Уладзіміра Тачылы і Сяргея Куксава**, а таксама экс-вертыкальшчыкаў Полацкага раёна – былых старшыні райвыканкама **Валерыя Палідаўца** і яго намесніка **Алега Ермаковіча**. Быў асуджаны, але раней за тэрмін выйшлі на свабоду намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама **Ігар Стасевіч**.

Як вядома, у Беларусі вызваленне ад крымінальнай адказнасці дапушчальна толькі ў тым выпадку, калі абвінавачаны добраахвотна пакрывае прычыненую шкоду і даход, атрыманы злачынным шляхам, то бок, умоўна кажучы, вяртае тое, што скраў.

Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.

БЛІЦ

# ШТО ПЕРАМОЖА: французскі прагматызм ці харвацкі рамантызм?

*Палітыкі і футбольныя спецыялісты зрабілі для "Народнай Волі" свае прагнозы на тое, хто стане чэмпіёнам свету.*

Як вядома, у паўфіналах зборная Харватыі перамагла Англію – 2:1 (у асноўны час – 1:1), а французы перамаглі бельгійцаў – 1:0.

Такім чынам, 14 ліпеня ў матчы за 3-е месца згуляюць зборныя Англіі і Бельгіі (17.00), 15 ліпеня ў 18.00 пачнецца фінальны матч паміж камандамі Францыі і Харватыі. Хто ж выйграе чэмпіянат свету?

**Ігар КРЫВУШЭНКА, галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе:**



– У фінале я аддаю перавагу зборнай Францыі. Маладая, але дастаткова хуткая ў атацы каманда з добрай лініяй абароны і апорнай зонай. На гэтым першынстве яны паказваюць найбольш збалансаваную гульню, таму ў фаварытах – менавіта французы. Харваты са сваім характарам і воляй выглядаюць вельмі прыстойна, але пераможа, гугь, як мне падаецца, не яны.

**Юрась МЕЛЯШКЕВІЧ, намеснік старшыні руху "За Свабоду":**

– Мару, каб харваты паўтарылі свой папярэдні поспех у матчы з англічанамі. Мой прагноз: зборная Харватыі пераможа французаў з лікам 2:1.

Увогуле, тут трэба толькі паапляскаць у далоні харватам, якія ўжо дасягнулі вялізнага поспеху – упершыню ў сваёй гісторыі патрапілі ў фінал чэмпіянату свету. Раней было цяжка ўявіць, што каманда можа дасягнуць такога ўзроўню, але, як бачым, няма нічога недасяжнага. Буду перажываць за харватаў.

**Ілля ДАБРАТВОР, кіраўнік Мінскай раённай арганізацыі Партыі БНФ:**



– Як мне падаецца, па гульні і зборная Францыі, і Харватыі прыкладна аднаго ўзроўню. Майстры высокага класа ёсць у абедзвюх камандах. У французаў – Мбапэ, Пагба, Грызман, Жыру… У харватаў – Манджукіч, Ракіціч, Модрыч… Гэта ж зоркі сусветнага футбола!

Але, на мой погляд, на сённяшні момант харваты маюць невялікую перавагу перад Францыяй, хаця не выключаю, што справа, як і ў многіх іншых матчах, будзе вырашацца ў серыі пенальці. А гэта, па сутнасці, латарэя.

**Юрый КУРБЫКА, намеснік старшыні Федэрацыі футбола Беларусі:**

– Я не асабліва паважаю прагнозы, хаця сам буду падтрымліваць Харватыю. Увогуле, падабаюцца ўсе каманды, якія дэманструюць прыгожы футбол, хаця гэты чэмпіянат даволі непрадказальны. Фаварыты, на якіх ставілі, ужо спынілі барацьбу, але за тое футбол мы і любім, што тут не ўсё ходзяць роўным строем. Хто чакаў, што Бразілія так хутка вылеціць ад Бельгіі ці Іспанія?

Але адно магу сказаць – у фінале будуць гуляць не выпадковыя зборныя. Харваты на жылах перамагалі ў апошніх матчах, а значыць, ёсць у каманды характар і класныя футбалісты. А французы таксама пацвярджаюць свой клас.

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, адзін з кіраўнікоў кампаніі "Гавары праўду":**



– Перажываю за харватаў, але выйграе першынство Францыя. Французы гуляюць больш дысцыплінавана, гэта вельмі арганізаваная каманда, якая не пакідае сілы на апошнія 5 хвілін, а можа трымаць тэмп на працягу ўсяго матча. А вось харваты гуляюць рыўкамі – то больш марудна, то на куражы ўзмацняюць націск. Таму, на мой погляд, французскі прафесіяналізм і прагматызм пераможа харвацкі рамантызм.

Алесь СІВЫ.

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК

## Купіў няякасную лямпачку

*Набыў на рынку лямпачку бліжняга святла для аўтамабіля. Паставіў яе на аўтамабіль, але лямпачка адпрацавала ўсяго два дні. Ці можна яе памяняць, калі чэк я выкінуў?*

Сяргей ПАПКОЎ, г.Рагачоў.

– Маеце на гэта поўнае права.

## Планшэт некалькі разоў рамантавалі

*Набыў планшэт у сеткавай краме бытавой тэхнікі. Гарантыя на яго – 1 год. Праз два месяцы ён перастаў працаваць. Аднёс у магазін, быў устаноўлены вытворчы недахоп, і прадавец накіраваў тэхніку ў рамонт па гарантыі. Пасля рамонту праверыў планшэт пры прадаўцы і аказалася, што рамонт не зрабілі. Я адмовіўся яго прымаць, і тэхніку зноў накіравалі ў рамонт. Праз два тыдні атрымаў планшэт у працоўным стане, але праз 2 месяцы ў рабоце зноў узніклі праблемы. Што мне рабіць, бо, наколькі я зразумеў, быў няякасны рамонт? Як дабіцца, каб планшэт замянілі на новы?*

Андрэй ШЛАПАК, г.Чэрвень.

– Заявіце прадаўцу прэтэнзію аб вяртанні грошай альбо замене тавару.

## Вярнуць аўтазапчасткі

*Ці існуе законная гарантыя на аўтазапчасткі? Сітуацыя такая: памяняў счапленне ў машыне. Прабег аўтамабіля пасля рамонту – 2 тысячы кіламетраў. У выніку паляцела адна дэталь. Прадавец магазіна, дзе я купляў дэталі, кажа, што гарантыя – 14 дзён, і яна ўжо скончылася.*

Сяргей КУЧЫНСКІ, г.Маладзечна.

– Так, ёсць два віды гарантыі. Прадаўца – 1 месяц і вытворцы – 3 гады.

## Замяніць велатрэнажор

*Купіў велатрэнажор, але затым перадумаў і захацеў іншую мадэль. Напісаў заяву на абмен, прадавец сказаў, што мне патэлефануюць, калі кіраўніцтва разгледзіць маю заяву і прыме рашэнне. Скажыце, колькі часу спатрэбіцца на разгляд заявы?*

Аляксандр ШПІЛЕЎСКІ, г.Орша.

– Заяву павінны разгледзець на працягу 14 дзён.

